# Валянціна Кулягіна (п.г.т. Краснаполле)

Восень – чараўніца

Ля бярозак і ля сосен
Ходзіць прыгажуня-восень.
Са сваёй чароўнай сумкі
Дастае ўсім падарункі.
Вось малодзенькім асінкам –
Залацістыя хусцінкі
Ціха ўскінула на плечы –
І далей пайшла за рэчку.
Тым бярозкам, што ў гаі
Сарамлівыя стаялі,
Ярка-жоўтыя сукенкі
Моўчкі ўсклала на каленкі.
А калінкам і рабінкам,
Нібы модніцам-дзяўчынкам,
Каля плоту што стаялі,
Восень кінула каралі.
Кучаравы клён зялёны
Раптам стаў ярка-чырвоны
І ля хаты затаіўся,
Бо сабой заганарыўся.
А вось елкам і сасонкам
На калючыя іголкі
Падарунка не знайшлося –
Бо спалохалась іх восень.
Між лясоў, хмызоў, кустоў
Восень к нам ідзе ізноў.
Са сваёй чароўнай сумкі
Шчодра дорыць падарункі.

***

Вёска родная, Мядзвёдаўка мая,
Мілая маленькая радзіма.
Тут я нарадзілася, узрасла
І ў жыццё мяне ты спраўдзіла.
Вось па гэтых сцежачках даўно
Басаногай бегала дзяўчынкай.
І спявала песні за сялом,
Залівалась, быццам, салавейка.
Усё тут сэрцу дорага майму:
Гэты лес за полем, людзі, хата,
Дзе жыве бабуля і расце клён,
Пасаджаны даўно калісці татам.
Я пад гэтым клёнам той вясной
Сустракала першае каханне.
І хоць маці клікала дамоў,
Але ж мы стаялі да світання.
Вёска мілая, маленькая радзіма,
Незабыўны, непаўторны кут!
Дзе б я ні была, дзе б ні хадзіла,
Назаўсёды застанецца сэрца тут.

***

Ці помніш нашы ты сустрэчы?
Спатканні нашыя з табою?
Як ты прыходзіў кожны вечар,
Каб толькі ўбачыцца са мною?
Цябе заўсёды я чакала
На ўскрайку нашага сяла.
Калі цябе я заўважала –
Найшчаслівейшая была.
Насустрач птушкаю ляцела,
А ты букеты кветак нёс…
Мы быць шчаслівымі хацелі,
Ды шчасце, пэўна, вецер знёс.
Украў ён нашыя спатканні,
Сустрэчы даўнія з табою.
Цяпер і вечары, і ранні
Для нас зрабіліся журбою.
Пачуцці тыя пазабыты,
Занесла слотай іх зімою.
І вінаваты ў тым адзін ты –
Чужымі сталі мы з табою.

***

Куды нясуць мяне ўспаміны?
У той далёкі час, калі
Ты непаўторны і адзіны
Быў для мяне на ўсёй зямлі.

Куды нясуць нас успаміны…
А ты той памятаеш час,
Як клён ля хаты і рабіна
Заўсёды сустракалі нас?

Як мне заўсёды гаварыў ты:
"Глядзі, каханая, то я,
А са мною побач ты – рабіна,
Прыгожая, адзіная…

І мне ласкава ўсміхаўся,
З пяшчотай у вочы мне глядзеў…
А час на месцы не спыняўся,
А час ляцеў, ляцеў, ляцеў…

…Ты для мяне ўсё той, адзіны,
І агонь кахання ў нас не згас.
А клён сівы з старой рабінай,
Як і раней, вітаюць нас.

***

Моя душа – израненная птица,
Случайно угодившая в силок.
Печалится, страдает и томится,
На волю рвётся за рывком рывок.
Как хочется ей ощутить свободу,
Полёта вольного в небесной вышине!
Но дни летят, уходит год за годом,
Скучает душа-птица в тишине.
И ждёт, что к ней придёт
освободитель,
Поможет сети разорвать силка,
Чтоб больше не смогла она
томиться,
Забыла о неволе, где жила.
Отпустит на свободу душу-птицу:
- Лети, душа, пусть будет лёгким
путь!
И, с радостью паря в небесной выси,
Освободителя ты только не забудь.

***

Искупаться б мне в твоей любви,
Окунуться бы в твои объятья.
Ты меня скорее позови –
И я брошусь в этот омут счастья.
Безоглядно брошусь, безрассудно,
Хоть совсем и не умею плавать.
И пускай потом меня осудят,
И пускай потом я буду плакать.
Лишь бы утонуть в твоих объятьях,
И в твоей любви мне искупаться…
…Только нужно ль с головой
бросаться
В это горько-призрачное счастье?

# Алесь Гаўрыленка (г. Крычаў)

## *Крокі лёсу*

Гэты шэры, пакрыты зялёным імхом, камень ляжаў ля дарогі ўжо шмат гадоў. Колькі дакладна? А ён і сам гэтага не ведаў. Памятае толькі, як некалі раней па гэтай дарозе ездзілі павозкі ды хадзілі абутыя ў лапці, а часцей проста басаногія людзі. Зараз жа камень чуў, як гудуць і грукочуць машыны, а летам і восенню ідуць міма ў лес ягаднікі і грыбнікі ў пошуках салодкіх паўзуніц ды прыгожых грыбкоў – баравічкоў. Але абавязкова – і раней і зараз – вяртаючыся ў горад, чалавек заўсёды падыдзе да каменя, пасядзіць крыху на ім і ідзе далей да тых, хто яго чакае. Камень да гэтага ужо прывык і нават крыўдзіўся, калі нехта праходзіў міма.

Вось так і жыў ён, сустракаючы і праводжаючы падарожнікаў. А яшчэ была ў яго мара. Сумна была аднаму. Ён па-добраму зайздросціў сямейству гарыхвостак, у якіх было гняздо на дрэве побач з ім. З задавальненнем камень слухаў спевы птушак. А спявалі гарыхвосткі амаль круглыя суткі з 2 гадзін ночы і замаўкалі познім вечарам, каля 23 гадзін. І вось марыў ён, каб у адзін цудоўны дзень узляцець яму, як гэтыя птушкі, і лунаць у паветры. А галоўнае, каб побач лятала шчырае і адданае сэрца, якому можна было б сказаць, а яшчэ лепей спець, аб сваім каханні, сваім захапленні…

І вось аднойчы мара каменя здзейснілася. Гэта быў цёплы сонечны дзень. Гарыхвосткі былі ва ўдары. Расцягнутыя "фі-і-і" пераходзілі ў "ю-ю-ю-ю-ю" і завяршаліся, што асабліва падабалася каменю, скрыпучым "цыкру". Камень так заслухаўся спевамі суседзяў, што нават не пачуў, як да яго падкраліся вялікая машина і трактар з нязграбным каўшом. І толькі скрып каўша, які спугнуў птушак, дайшоў да вушэй каменя. Ён і азірнуцца не паспеў, як коўш схапіў яго і адарваў ад зямлі. Адразу камень спалохаўся, але потым: "Лячу!"- закрычала яго усхваляванае сэрца. "Лячу!"- здавалася, што гэты крык гучыць на увесь свет. "Лячу!"- сонца


У чаканні вясны

купала яго ў сваіх промнях. "Лячу!"- насустрач ветру. "Лячу!"- насустрач лёсу. "Лячу-у-у-у!"…

Коўш апусціў камень у кузаў машыны. І тут сэрца яго амаль не разарвалася ад нечаканасці… У кузаве ляжалі камяні. Іх было шмат. Самых розных. Вочы проста разбягаліся. Але наш камень звярнуў сваю ўвагу на мініяцюрную бландзінку, якая аказалася побач з ім.

- Я вас кахаю! – сказаў камень дрыготкім голасам. – І прапаную вам свае руку і сэрца. – Вы згодны?- камень змоўк і з хваляваннем чакаў адказу.

- Так, - адказала бландзінка праз хвіліну, калі машына падскочыла на ямцы. "Так – так!" – услед закрычалі астатнія камяні.

- Так, - ціха паўтарыў услед наш камень, адчушы ласкавы дотык сваёй сяброўкі. – Гэта казка, - думаў камень. – Гэта сон. Я зараз прачнуся і зноў буду ляжаць ля дарогі… Не хачу прачынацца-а-а!..

Скрып тармазоў перарваў думкі каменя. Кузаў раптам пачаў падымацца, і ўсе камяні абрынуліся ўніз на зямлю. Але і тут, дзякуючы выпадку, камень са сваёй сяброўкай аказаўся побач. "Так будзе заўсёды, - пазіркам на позірк адказала сяброўка. – Куды ты – туды і я".

І сапраўды, і ў яме, куды іх кінулі людзі, яны аказаліся побач. Але тут было мокра і халаднавата. Каменю стала няёмка. Ён упершыню ад пачатку нечаканай сустрэчы ўспомніў свой лёс пры дарозе, сваіх суседзяў – птушак… Ды было ўжо занадта позна нешта рабіць. Халодны раствор намёртва звязаў яго з астатнімі камянямі сваімі цэментнымі абдымкамі. Стала цёмна, а потым і балюча. Сяброўка ўпіралася сваім вострым вуглом прама ў бок. Ды яшчэ з усіх астатніх бакоў яго сціскалі сябры, сяброўкі і проста знаёмыя яго каханай. І камень наш не бачыў ужо не толькі прасвету для вачэй, але і прасвету у жыцці. Усе ж астатнія камяні незадаволеннасці не выказвалі, а магчыма проста прытвараліся, што ім спадабаецца. Таму наш камень маўчаў і не расказваў ім аб сваёй мары, якая яму снілася па начах. Сонца, дарога, лес і птушкі, якія і сярод ночы спявалі:

- Фі-і-і, ю-ю-ю-ю-ю, - і завяршалі свой спеў скрыпучым "цыкру".

## *"Піце на здароўе"*

Пётр Сяргеевіч – цікавы, імпазантны, сярэдніх гадоў мужчына, вылез са сваёй белай "дзявяткі" і накіраваўся ў бок камерцыйнага ларка. Там доўга разглядаў вітрыны, а потым звярнуўся праз акенца да прадаўшчыцы:

- Мне бутэльку гарэлкі, вунь тую, з чырвонай этыкеткай бутэльку віна, каробку цукерак і … І тут Пётр Сяргеевіч засмуціўся. Як раз у гэту хвіліну да ларка падышлі дзве маладзенькія "Лаліты". Яны яшчэ здалёк стрэльнулі вочкамі па мужчыне і аб чымсці весела захіхікалі. Пётр Сяргеевіч адчуў сябе неяк няёмка і так і застаўся стаяць з адкрытым ротам, пакуль не адчуў на сабе здзіўлены позірк прадаўшчыцы. Мужчына паглядзеў на дзяўчын – тыя разглядалі паліцы з касетамі і ціха пасмейваліся, нібы тыя званочкі. Тады Пётр Сяргеевіч працягнуў руку з грашамі ў акенца і дадаў ціхім голасам:

- І два пачакі кавы, вось гэтыя, - і паказаў на ніжні рад пальцам.

Прадаўшчыца нахінулася пад прылавак і нешта доўга шукала. Пётр Сяргеевіч нецярпліва зазірнуў у акенца і, звяртаючыся да жанчыны, зноў паказаў на пачакі:

- Мне вось гэтыя!

- Разумею, разумею… - адказала прадаўшчыца і падала Пятру Сяргеевічу два пачакі прэзерватываў.

- Вялікі дзякуй! – адказаў той, хуценька хаваючы іх у кішэню.

- Пейце на здароўе! – усміхнулася прадаўшчыца.

Пётр Сяргеевіч спяшаўся да свайго аўтамабіля, услед яму ляцелі ласкавыя званочкі:

- Моцны дзядзька!

# Алег Матвеенка (г. Крычаў)

***

Маё сэрца заблытана болем,
І цмянее душэўны напал,
Бо даўно па жыццёваму полю
Пагубляў маладосці запал.

Толькі кружыць нястомленым рукам
У мітусні неразборлівых дзён,
Ды нясе, нібы ветраным духам
У адзіноцтва струхлелы палон.

І часінай не ўспомніць аб муках.
Ці наяве, ці проста ў сне
Мацярынскія шчырыя рукі
Імкнуцца хутчэй да мяне.

І няўдачы ляцяць у бяздонне,
Калі на беразе тым
Чакаюць маці далоні
Вокамгненнем святым.

***

Дзе ж той вецер – лёгкі, мілы,
Што дае ўладнай сілы,
Я збяруся ў госці да яго.
Хай закружыць ён над жахам,
Над маім бязметным шляхам,
Каб парушыць лёсу прыгавор.

У блакітна-белай далі
Жураўлі зноў пракрычалі,
Пакідаючы куток аселы свой…
Сэрцу хвораму маркота
Не дае ў жыцці ўзлёту,
Ды бязмежна страты чарадой.

Колькі крочыць шчэ за праўдай.
Дзе ж той вецер старадаўні,
Дзе ж тое раздолле, як знайсці?
Бо мой час на скрыжаванні
Шэрых роздумаў, жаданняў,
Бо далей ужо мне не прайсці.

***

Хай не імчуся ў ласкавы вечар
Ужо да дзяўчыны сваёй.
Упалі разлукай гады мне на плечы,
Мара гарыць сівізной.

Толькі забыць не змагу я ніколі
Вочы яе – васількі.
З кожнай вясной успамінаю да болю
Пацалункі яе ля ракі.

Хай наварожыць мне лёс падарожжа,
На чужыні хай жыць-дажываць,
Толькі дзяўчыну сваю асцярожна
Буду заўжды я кахаць.

***

Родная зямля – вёскі й гарады,
Абуджаныя вераю да Бога.
Як хочацца з табой застацца назаўжды,
Як хочацца забыцца на дарогу.

Ружовыя сады, блакітныя палі
Цвітуць у маім сэрцы з маладосці.
І адчуваю я роднае зямлі
Ні з чым непараўнальнай прыгажосці.

Родная зямля, працяг жыцця майго,
Мая ты калыханка, мая маці.
Каханне да цябе выходзіць з берагоў,
З жыццёвых берагоў ракою шчасця.

Уваходжу ранкам я ў цеплыню тваю –
Знікаюць зманы, крыўды і маркоты…
Родная зямля, пакуль яшчэ стаю,
Ты падаруй мне крылы для ўзлёту.

***

Я вершы складаць
Пра цябе не стамлюся.
Не чакаў я кахаць,
Не жадаў – памылюся.

Бягу па расе
Здзіраю дзён плесню.
Цябе па красе
Знаходжу ў песні.



З ветрам паспрэчу,
Прайду я скрозь дым…
Шкада толькі ў вечар
Уваходзяць гады.

***

Пакуль душой жывы,
Я перакрэслю страты.
Пайду ранютка з хаты
На звон сваёй царквы.

Каханне, лёсу сум
На Божы суд – на міласць
І рэзаныя крылы
На плаху панясу.

Прыйшоў жаданы час.
Ціхутка ў маленні
Усцешу я натхненне
У апошні, мабыць, раз.

Крану іканастас
Каменнымі рукамі.
Халоднымі губамі
Шапну апошні раз…

***

Я збяруся ранкам,
Развяду агонь.
Хай гарыць, жадана,
У ім журба – бяздонь.

Хай трышчыць, іскрыцца
Погалас, праклён.
Толькі б не забыцца
Аб зняверы дзён.

Толькі б адзіноцтва
Дымам занясло,
Ведаю, не проста
Зараз надыйшло.

Хай гарыць удала
У восень да вясны,
З горычы нямалай,
З радасці пра сны.

***

Ты ўспомніш калі-небудзь пра мяне,
Пяшчотныя працягнеш свае рукі,
А я знайду сцяжынку па вясне
Ад страты, адзіноцтва, ад разлукі.

Я павяду цябе цераз палі,
Абдымкі падаруе нам світанак.
Каханне, што калісьці не змаглі,
Мы адшукаем – позна або рана.

Я павяду скрозь сорам і хлусню,
Скрозь погалас і блізкі і далёкі
І ты пазнаеш мары вышыню,
І ты ўбачыш радасці вытокі.

І зорка нам надзейнасці мігне,
І ветрык зноў той ласкавы падзьмуе…
Ты ўспомніш калі-небудзь пра мяне,
Ты ўспомніш, веру я, не пашкадуеш.

***

Ці пакінуў зараз лёс,
Ці пакрыўджаны, зняможны?
Што даруе мне з нябёс,
Толькі й ведае той Божа.

Ці абуджаны на грэх
Ці шалёны, ці бязладны?
Чаму часам горкі смех
Толькі ведае ўрад наш.

Сам сабе я не суддзя –
Барацьбіт, ці пустамеля.
Ад трывогі, забыцця
Толькі б ведаць тое зелле.

Маю мэту ці згубіў,
Ці жабрак я, ці багаты?
Што застаўся якім быў,
Толькі ў тым і вінаваты.

***

Суцішальны, ласкавы ўспамін
Пакідае ружовае лета.
У развітальны клін
Адлятае апошні падлетак.

Смутка пляце рукавы,
Над полем ужо адзіноцтва.
Да знямелай травы
Не кліча асенняе сонца.

У прыгажосці асенніх дзівос
Уваходжу праз смутак сумненняў,
Адчуваючы з хмарных нябёс
Толькі дажджоў прыцяжэнне.

***

Мост вайны і міру мост. Як блізка
Памяць. Паміж імі, як ланцуг,
Помнікі, магілы, абеліскі,
Нібы скрыжаванне мёртвых рук.

Два масты, здаецца, назаўсёды
Ад кахання да нянавісці ляглі.
І вядуць уладары народы
Зараз да якого па зямлі?

***

Знаходзіць нехта ў барацьбе,
Здаецца мне, нямала –
Выгоду лепшую сабе,
У міг аголіў джала.

Адзін другога б’ем у твар
І кідаем у канаву.
А ён, між тым, пускае пар,
Згортваючы славу.

А мы, замольваючы грэх,
Існуем у размовах.
Ягоны чуем громкі смех

***

Не бываў ніколі за граніцай.
Кажуць, там жывуць дзеля красы.
Мне заўжды, як і раней, усё сніцца
Беларусь, яе беларусы.

Прыгажосці, ведаю, нямала
Там, блізкія шляхі на вышыню.
Толькі я Скарыну і Купалу
На замежны подых не зміняю.

Хай даруюць людзі за граніцай,
Няхай кажуць: “Кепска тут, не там…”
Пакуль сэрца будзе маё біцца –
Адданы Беларусі, беларусам.

***

Хаваю у далонях іскрынку агню.
Часіна кранаецца мэты.
Мару я ўзняцца на вышыню
Да зоркі сваёй запаветнай.

Хаваю ў далонях іскрынку агню…
Сэрца разбіта аб веру.
Апускаецца мара на цішыню,
Скрыпяць блакітныя дзверы.

Хаваю ў далонях іскрынку агню…
Вецер нясе непагоду.
Млява і сыра светламу дню
У гэтым раздоллі свабоды.

Хаваю ў далонях іскрынку агню.
Хай да апошняй хвіліны
Грэе і думкі мае на вышыню,
І пачуццё да жанчыны.

***

Як не трэба сораму вучыцца,
Сорам – наша крыўдная сляза.
Беларускай мовай ганарыцца
Мне з дзяцінства лёс мой наказаў.

Хай мне давядзецца на чужыні
Смутка заплятаць тугі вянок,
Толькі ў маім сэрцы, як святыня,
Будзе роднай мовы галасок.

¨н заўжды, як чыстае каханне,
Грэе мне надзеі і душу
І кажу, як любай на спатканні,
Як жыццём табой я даражу.

# Вячаслаў Якавенка (г. Крычаў)

Вякоў паклон звычайнай гліне

Вякоў паклон звычайнай гліне,
Вядомай усім з сівых часоў,
Нібы кавалкі чарапкоў,
Што знойдзены былі ў магіле.

Яна заўжды была ў жыцці
У славутых творах тых майстроў
І цэглай замкаў і дамоў...
Паўсюль яе маглі знайсьці.

І незаменна ў шчасці і бядзе
Была яна апорай чалавеку,
І посудам, мастом і хатаю спрадвеку
Труной у пахавальнай чарадзе.

Яшчэ таксама быў і хлеб гліняны,
Што у ахвярніцах знайшлі славян
Не засталося зерня для сялян –
А богі не заўважылі падману.

А сёння гліна зноў ужо ў пашане –
Тут абярэгі, лекі, розныя дэталі
Нясуць ракеты да касмічных даляў
І чалавек гімн гліне зноў спявае.

Знаходлівы ганчар

На кірмаш пасуды воз
У нядзелю Ціт павёз –
Яго конь панёс! (Тпру! Стой!)

Новы воз перакуліў
І пасуду ўсю пабіў:
"Што ж я нарабіў!" (Ой, ёёй! Ой!)

Прыехаў Ціт дадому
Ды стаў ён жонцы хваліцца.
Стала жонка сварыцца. (Аля-баля, аля-баля!)

Ціха ты, жонка, не сварыся
Ды паслухай ты, не журыся –
Не прападзе нічога. (Не! Нічога!)

Са збанкоў стануць гладышы,
А з глякоў будуць гаршкі,
Ціха ты, жонка, не крычы! (Ой, ды замаўчы!)

З макацёра зраблю чашу,
З латкі – міску пад кашу
Ўся пасуда будзе наша. (Ды шчэ якая!)

Чарапкі засыплю ў падвалу,
Ні адзін не кіну ў канаву,
Пакладу падмурак моцны. (Вось як!)

А з пабітых гарлачоў
Нараблю цагельнікоў –
Узвяду я мураванку. (Ой, ды я!)

Пабудую нову хату,
А старую прадам свату –
Наваселле мы згуляем. (Ой, люлі! Ой, люлі!)

Мець тут грошы будзем мы,
Станем есці, як паны,
Зажывём, як куркулі. (Ды шчэ як!)

Печка

Зоркі зіхацяць у начы,
Агонь гарыць у пячы.
Вогкае палена трашчыць,
Іскра на чарэне блішчыць,
Жарынка на загнеце дыміць,
Агеньчык у шчыліне трымціць.
Печ, як жывая, шуміць,
Штосьці мне ціха бурчыць
Водар духмяны ляціць,
У чыгунку крупеня кіпіць.
Агонь яго ліжа, ласкае,
Цяплом сваім награвае.
Калі ж будзе сцюжа, завея,
Печ заўсёды сагрэе.
Як на цябе добра легчы,
Утульная гліняная печка!

Круціцца круг дай і паскрыпвае

Круціцца круг дай і паскрыпвае,
Мыш у вугле дай і папісківае,
Ганчар гарлач дай і выцягівае,
Сабе пад нос дай і прыгаварвае:

-Ай ты, круг, круцісь, круцісь!
Ты, гарлач, рабісь, рабісь!
Атрымайся ж ты цудоўным,
На любы напітак годным.

А жонка ля пячы, дай і ля пячы,
Гатавала калачы, дай і калачы.
Толькі ганчара пачула, дай і пачула,
Хутка на яго зірнула, дай і зірнула.

- Ай ты, п'яніца стары, стары,
Робішь толькі гарлачы, гарлачы,
Ты зрабі ж мне гудок,
Доўгі моцны свісток.

З Крычава вялікага шум бальшой ідзе

З Крічава вялікага шум бальшой ідзець,
Шум бальшой ідзе
Вашчыла атаман свой народ вядзе,
Свой народ вядзе.
Каторы узяў вілы, каторы сякеру,
А хтосьці з касою,
А хтосьці з касою ідзець.
Як сам пан-атаман – дык ён з пістоллю.

З Крічава вялікага шум бальшой ідзець,
Шум бальшой ідзець.
Пад замкам з панамі бой ідзець,
З панамі бой ідзець.
Вецер на кане, Сыч стрэльбу дастаець,
Карпач з гарматы б'ець,
Карпач з гарматы б'ець.
Ён смяецца, свішча – ды яшчэ пяець.

З Крычава вялікага шум бальшой ідзе,
Шум бальшой ідзець.
Вашчыла атаман свой народ вядзець,
Свой народ вядзець.
Паўсталі за волю, паўсталі за долю,
Паусталі за свабоду,
Паўсталі за свабоду ўсе.
За праваслаўну веру, ды за родну землю.

Крычаўская полька
(ганчарская)

Кола круціць, нагой б'е –
Ганчар песеньку пяе.
Кола [illegible]ціцца, рыпіць,
А нам хочацца ляпіць!

- Дай нам гліну памясіць,
Гарлачоў шмат нарабіць.
- Адчапіцеся, дзяўчаты,
І ступайце вон вы з хаты!

- Ганчар, хату ты кідай,
З маладымі пагуляй,
Хата поўная глякоў,
Нам патрэбна жаніхоў!

- Нікуды ад вас не дзецца,
Дайце хутка мне надзецца!
Пойдзем разам танцаваць,
Будзем полечку скакаць!

- Вы, музыкі, заіграйце,
Дзевак танчыць зазывайце,
Наша полька-паскакуха
Ўсіх кружыць, як завіруха!

Полька кружыць у кругу
На зялёным на лугу,
Ганчар скача у кругу
Сярод дзевак на лугу.

Ганчара не закружыць –
На кругу прывык рабіць,
Гарлачы, збаны, глякі
Вылятаюць з-пад рукі!

Кола круціць, нагой б'е,
Ганчар песеньку пяе.
Кола круціцца, рыпіць,
А нам хочацца ляпіць!

# Вольга Пасюкова (г. Крычаў)

Кветкі Радзімы

На пра́сторах палёў да ўзлесся,
Дзе працуюць мае землякі,
Дзе жанчыны спяваюць песні,
Там жытнёвыя ёсць васількі.

На пагорку, зялёным і мяккім,
Летам цёплым пляцём мы вянкі
З лугавых рамонкаў і макаў
І ўплятаем туды васількі.

Калі скончацца нашы гульні
У лапту каля самай ракі,
Мы збіраем кветкі матулі
І блакітныя васількі.

А зімою - мароз і завея,
Вые вецер, як тыя ваўкі.
Вышывае бабуля хусцінку,
А на ёй ў два радкі васількі.

У мароз яны грэюць мне сэрца
Лета цёплага ўспомню дзянькі…
Нездарма васільковым завецца
Родны кут, дзе растуць васількі.

Васілёк – гэта кветка радзімы,
Сіні колер і ў неба такі.
Не адзін беларус загінуў
За Радзіму, за васількі.

Каб краіна была свабоднай,
Не тапталі палёў чужакі,
Супраць ворага мужна паўсталі

Дарагія мне землякі.

Шмат загінула па краіне,
Будуць помніць іх людзі вякі…
Кожны год мы да помнікаў носім
Сінявокія васількі.

Мой город Кричев

На Беларуси все века
Через поля, леса, болота,
Блестя, как жемчуг Сож-река
Несёт неспешно свои воды.




На берегу её высоком
В роскошной зелени садов
Стоит древнейший город Кричев
Дороже всех мне городов.

Вот Гончаровка, Погорянь,
Цвецёт садами Забелышин…
Как будто голос из веков
Седой истории мне слышен.

Наш Кричев много испытал:
Разруху, голод и пожары.
Не раз на город шли враги
И даже лютые татары.

Они не знали, что народ
Наш победить никто не сможет.
Кто к нам сюда с мечом придёт
Тот сам и голову здесь сложит.

И в ту Великую войну
Бесстрашно бились кричевляне…
До наших дней не заросли
От бомб воронки на поляне.

Нам не забыть героев тех,
Что Кричев грудью защищали.
За Родину, за мир для всех
Без сожаленья жизнь отдали.

Расти наш город вширь и ввысь,
Пусть кричевляне бед не знают.
Красивым, чистым стать стремись,
Тебя пусть в песнях прославляют.

Іван Фёдаравіч і Максім Кірэевіч тады ўжо размянялі па шостаму дзесятку, яны жылі ў адной невялічкай вёсачцы на Мсціслыўшчыне і былі кумамі. Іх падворкі падзяляла толькі шырокая сельская вуліца: брудная па вясне і ў восень, пакрытая тоўстым слоем пылу ўлетку і заснежаная ўзімку.

Пасябраваў Максім з Іванам недзе ў 50 – м. Адразу пасля таго, як ён прыехаў ў вёску з Краснаярскага краю разам з жонкаю. Яна была тутэйшая, нарадзілася ў гэтых мясцінах.

Максім дапамагаў Івану абжыцца на новым месцы, асвоіцца з сялянскай працай. А праз пэўны час мужчыны пакуміліся, нягледзячы на вялікую розніцу ў характарах, адукацыі, інтэлекце і поглядах на жыццё. Цёплыя, сяброўскія адносіны паміж імі працягваліся і ў 60 – х, і ў 70 – х гадах, літаральна да самога скону кума Максіма...

Так, кумы былі людзьмі рознымі. Іван – высокі, хударлявы інтэлелегентны мужчына. Карэнны масквіч, удзельнік ва йны з мілітарыстскай Японіяй, па волі лесу закінуты ў беларускую глыбінку, ён меў даваенную эканамічную адукацыю. Рабіў галоўным бухгалтарам у мясцовым саўгасе, быў класным гітарыстам, добрым спеваком і валодаў вытанчаным пачуццём гумару. Іван любіў калі-нікалі падначыць свайго кума, які ўсё прымаў за чыстую манету. ¨н не злаваўся і не крыўдзіўся, так, крыху выходзіў з сябе на гадзіну – дзве, пасля чаго зноў быў рады жыццю.

Як і ўсе гарбуны, Максім быў нізенькі і каржакаваты. Пры малым росце яго дужыя, мускулістыя рукі віселі ніжэй каленяў і здаваліся незвычайна доўгімі. Знявечыўся ён яшчэ ў дзяцінстве – скінуўся з печы і ўдарыўся аб лаву.

Калецтва, безумоўна, перашкодзіла Максіму, як кажуць, выбіцца ў людзі, але ён не жалеў аб гэтым, жыў сабе пакрыху і дзякаваў Богу за яго літасць...

У школу Максім хадзіў ўсяго тры зімы. Умеў чытаць і пісаць, астатняму навучыла жыццё і добрыя людзі. ¨н быў нядрэнным гаспадаром на сваім подворку і выдатным малаказборшчыкам у саўгасе, любая справа ў яго ладзілася. Вядома, гарбун не быў асілкам, але калі ўжо ўчэпіцца сваімі ручышчамі, дык яго, нібы кляшча, адразу не адарвеш. Сіла ў іх была неймаверная. Не ўсе вясковыя мужыкі вытрымлівалі поціск яго рукі. Іншы раз так сцісне, што нехаця прысядзеш.

Відаць, у Максіма сіла была не толькі ў руках, інакш не пайшла б замуж за калеку прыгажуня Фрося. Яна ніколі не пярэчыла свайму суджанаму, хаця часцяком прыносіла яго п'яненькага з гулянкі на руках, нібыта дзіцё малое. Таму і пражылі яны разам доўгае жыццё, дзяцей і ўнукаў вырасцілі...

У Максіма была знатная паляўнічая стрэльба восьмага калібра, работы тульскіх майстроў XVIII стагоддзя.

# Александр Балдоўскі (г.Крычаў)

## *Кум Максім (апавяданне)*

Паляўнічыя ведаюць, што ў наш час гладкаствольныя ружжа больш дванаццатага калібру серыйна не вырабляюць. Атрымліваецца, што Максім Кірэевіч валодаў амаль што гарматай, толькі ручною. Яшчэ б, фунта (409гр.) свінцу яму б хапіла усяго на восем стрэлаў.


Пакутнік

Капсульная пішчаль дасталася Максіму ў спадчыну ад бацькі. А да таго трапіла праз трэція рукі з нейкага колісь абрабаванага мужыкамі панскага маёнтка. Магчыма, што з яе некалі білі ворагаў са сцен Мсціслаўскай ці Крычаўскай крэпасці. Зараджалася яна не з казеннай часці, а са ствала пры дапамозе шомпала.

Зборы на паляванне Максім ператварыў ў своеасаблівы рытуал. Свяшчэннадзейнічаць пачынаў яшчэ з вечара. Зараджаў сваю фузею ў хаце. Порах выкарыстоўваў дымны. Засыпаў ў ствол яго прыблізна, на вока, палову жмені, і старанна затрамбоўваў кавалкам газеты, пасля чаго адпраўляў туды добрую жменю шроту, калі той быў ў яго. Гэта бывала толькі зрэдку, пасля прыездаў гарадскіх паляўнічых, а звычайна яго замянялі сечаныя цвікі альбо жалезны дрот. Нічога не зробіш, недарама кажуць, што калі няма гербавай, то пішаш на звычайнай. Пасля шроту ў ствол зноў затаўкаў жмут паперы ці пакулля. Потым падсыпаў пораху на брамку, устанаўліваў капсуль і прыціскаў яго падобным нібыта дзве кроплі вады на малаточак часавога майстра курком. Фузея была гатова стрэліць.

Дарэчы, даць выстрал з яе Максім практычна мог толькі адзін – занадта моцнай была аддача і плячо шчымела з тыдзень. Страляць было лепш лежачы. Каб была магчымасць зрэдку даць выстрал стоючы, Максім замацаваў да цаўя пішчалі на лейцы кавалерыйскае стрэмя, якое прыціскаў да зямлі праваю нагою. Толькі і гэтыя хітрыкі дапамагалі мала, пасля стрэлу яго разварочвала на 180 градусаў, але з ног не валіла. І то, слава Богу!

Зыходзячы з гэтых абставінаў, Максім Кірэевіч аддаваў перавагу паляванню на качак. Ранняй вясной ці ўвосень ён прыходзіў да невялікага лясного возера, хаваўся ў прыбярэжным лазняку і чакаў свайго часу. Калі качкі прылятралі, то паляўнічы не спяшаўся стрэліць, а цярпліва чакаў каб яны сабраліся кучней.

Стрэл быў падобен на раскат грому. Калі ж густы і едкі парахавы дым рассейваўся, то на воднай паверхні звычайна заставалася не менш як тры – чатыры крыжанкі. Па восені яны былі асабліва тлустымі. Менш як за паўсотні метраў Максім ніколі не біў, бо ад птушак заставалася толькі пер'е.

Іван Федаравіч выдатна ведаў пра агнявую моц здольнай павальць нават елана кумавай фузеі, таму не прамінуў аднойчы падначыць свайго сябра. Бачыліся яны штодня. Па суботах у лазні парыліся, пасля чаго дазвалялі сабе па шкляначцы "першачку". На святы таксама разам за сталом сядзелі і частаваліся, чым Бог паслаў.

Аднойчы ўлетку сядзелі яны, мляўкія пасля добрай чаркі, у Максіма на ганку і пакурвалі. Нетаропка цякла размова, у асноўным аб асваенні космасу.

- Вось ужо і да месяца людзі дабраліся, грунт на пробу з халоднай планеты ўзялі. Ты чуў, Кірэевіч? – запытаў Іван, пускаючы дым кольцамі.

- Слухаў радыё, казалі пра гэта, толькі ты, кум, не вер. Хлусня! Думаеш, на месяцы яны пабылі? Дзяржы шырэй кішэню! Прызямліліся за бліжнім гаем, зачарэпнулі жмені дзве – тры зямлі і камісіі на стол: маўляў, вось вам, вывучайце – даследвайце!..

Аспрэчваць такое сцвярджэнне было бессэнсоўна, таму што палёты ў космас, як і яго існаванне ўвогуле, Максім адвяргаў. Маўчанне зацягвалася, трэба было мяняць тэму размовы. Тут Іван заўважыў краем вока гусіную чарадку, што належыла Максіму. Гусі мірна пашчыпвалі траўку метраў за шэсцьдзесят ад субяседнікаў.

- Чуеш, кум, здаецца мне, што ты не змог бы зняць з першага стрэлу вунь таго гусака! – падкінуў ён "прынаду". Максім падвоху не заўважыў і "заглынуў" яе.

- Як раз плюнуць! – спакойна вымавіў ён, упэўнены ў сабе і сваёй пішчалі.

- Далекавата ўсе ж, - падбухторваў яго Іван.

- Для майго самапала гэта не адлегласць! – запэўніў ужо пачаўшы распаляцца Максім. – Тфу, нейкія шэсцьдзесят метраў!

- Не ведаю, не ведаю! – с фальшывым сумненнем працягнуў кум. Заваліш – з мяне паў-літра "казённай"!

- Зараз даведаешся! Я яго хуценька абскубу, тваю маць! – выкрыкнуў ужо ўвайшоўшы ў раж Максім і падаўся ў хату за пішчаллю. Вынес яе і стаў хуценька зараджаць. Гусі тым часам адыходзілі ўсё далей.

Зброя была гатова к бою, калі птушкі ўжо перайшлі стометровы рубеж. Там іх і спасцігнуў паражаючы свінец, які вырыгнуў са свайго граненага ствала шэдэўр старадаўніх майстроў, грымнуўшы пры гэтым на ўсю моц. Па вёсцы адразу заліліся брэхам сабакі і пачалі ляпаць дзверы хат – жанчыны цікавіліся, што гэта здарылася. Ашалелыя гусі кінуліся ў розныя бакі, малоцячы крыламі. А на зямлі засталіся тры мертвыя птушкі: прыгажун гусак і дзве яго сяброўкі.

- Ну, што, з'еў? Неча спрачацца са мною, давай лепш пасняшай за бутэлькаю, пакуль прадаўшыца лаўку не зачыніла! – выпаліў Максім, пераможна паціраючы сваёю ручышчаю адбітае плячо. Радасць перамагла боль. І яго твар свяціўся нібы тульскі самавар на Вялікдзень. Прычытанні жонкі яго ні кропелькі не засмуцілі, дарэмна загубленыя сярод лета гусі – так сама.

- Чаго дарэмна лямантуеш, калі справа ўжо зроблена? Ідзі скубі, ды гусяцінкі нам насмаж! – распарадзіўся ён! Ефрасіння Захараўна пакорна пайшла выконваць загад гаспадара, выціраючы слёзы канцом хусцінкі.

Хутка на патэльні апетытна шыпела тлустая гусяціна. А праз гадзіну кумы ўжо ўздымалі чаркі з "Маскоўскай", заедаючы яе свежанінай. Гусі зноў сабраліся ў чараду і працягвалі карміцца...

# Зміцер Кудраўцаў (г. Крычаў)

Купалу

Паўвека, больш жыццё ліецца
Без беларуса – песняра,
Які так марыў, што пачнецца,
Быццё без пана і цара.

¨н жыў дзеля свайго народа,
Якому ўсё жыццё аддаў.
Надзеі, поспехі, няўзгоды
У вершах свету перадаў.

Спяваў Купала аб нядолі,
Бязрадасным, глухім жыцці.
Хацеў пясняр, каб сонца волі
Дапамагло далей ісці.

Свой родны кут, сваю хаціну
Праслвіў словам назаўжды.
Самотны, у цяжкую часіну
У думках адлятаў туды.

У шуме лесу, рэк бурленні,
У звонкіх песнях юнакоў
Дайшоў да нас праз пакаленні
Твой голас з глыбіні вякоў.

Усё жыццё змагар Купала
Народу поспехаў жадаў.
Што у сэрца вольнае запала,
Нашчадкам шчодра перадаў.

***

З глыбіняў старажытнейшага рода,
Ад прадзедаў паданні перайшлі
Пра лёс непераможнага народа,
Прыняўшага жалобу ўсёй зямлі.

Здаецца загаворыць дзед з партрэта:
"У кожны наш куточак зазірні.
Радзіма шматпакутная сагрэта
Агнём святой сыноўняй дабрыні."

Яе не толькі для сваіх хапала:
Народ наш мір, свабоду ратаваў.
У вершах-споведзях змагар Купала
Усёй планеце сэрца аддаваў.

Калі ў вайну закрылі сонца хмары,
І як бы боль не стрымваўся ў грудзях,
Але душу не пакідалі мары
Аб радасных, найпрыгажэйшых днях.

Мы вытрымалі, падняліс з каленяў.
Не здолеў вораг крыж наш зваяваць,
Які пранеслі сотні пакаленняў,
Каб жаўруком Радзіме заспяваць!

Ответ

Довольно часто слышу в разговорах:
"Зачем нужна мне эта Беларусь?
Учёбу в институте кончу скоро –
Уеду за границу. Не вернусь.

Да и зачем сюда мне возвращаться,
Ведь за кордоном лучше можно жить.
На Родине мне нечем восхищаться
Всё надоело… Нечем дорожить".

Услышу эту пошлость – сердце ноет
И чувствую в душе обиду я,
За то, что ничего уже не стоит
Для них, незрячих, Родина моя.

Когда бы вы так Беларусь любили,
Как я люблю заботливой душой.
Тогда бы всем народным дорожили,
И верили в её успех большой.

В душе черно – беру стихи Купалы,
Которые всех делают добрей.
Ошиблись, отщепенцы, не пропала
Земля поэтов и богатырей.

Она жила и будет жить веками,
И вы ещё услышите о ней,
Когда страна великими делами,
Провозгласит приход счастливых дней.

Покрепче взявшись за руки,
сплотившись,
Клянёмся: "Беларусь не подведём!"
Наследием отцов обогатившись,
Страну к достойной жизни приведём.

# Уладзімір Кудраўцаў (г. Крычаў)




Сапраўднае каханне

Кахання музыка ў маёй душы гучала.
Прырода квеценню вакол буяла.
А сэрца з любаю сустрэчы так жадала,
што свет чароўным здаваўся навокал.
Да месца нашае з каханкаю сустрэчы
спяшаўся я амаль што кожны вечар.
І свой пінжак накінуўшы на плечы
я крочыў да ракі, на той шырокі дол.
Здалёк я бачыў, як яна пад вербаю
стаяла.
Яна заўсёды там пад ёй мяне чакала.
Ў чаканні песеньку ад радасці спявала
і, ўбачыўшы мяне, махала мне рукой.
А сэрца білася маё ад хвалявання,
бо сустракаўся з ёй – маім жаданнем.
І мы шчаслівыя ў сваім каханні,
як Лена з Янкам, стаялі над ракой.
І шчасця гэткага салодкія хвіліны
нам радасці жыцця былі прычынай.
Мы моцна верылі: яно нас не пакіне!
І нам здавалася, што будзе вечная
вясна.
І мы ўдзячныя Стваральніку Сусвета,
бо гэта ¨н нам даў Каханне гэта.
Мы шчаслівейшымі за тых Рамэа і
Джульетту
сябе лічылі на гэтае Зямлі.
Пакольки рухавік Жыцця – Каханне,
(а нашае жыццё заўжды змаганне)
хай будуць для яго тым сілкаваннем
пачуцці ўсе пад назваю - Любоў.

Крычаў

На мапе Беларусі горад Крычаў
знаходзіцца на ўсходзе нашае Радзімы.
Чыгуначным вузлом і значным яго
лічаць
ды й шлях – шаша маскоўскі не
адзіны.
Раскінуўся наш Крычаў па-над Сожам.
¨н горад старажытны, хоць і не вялікі.
У параўнанні з Менскам не такі
прыгожы,
але зрабіць прыгожым я б усіх
заклікаў.
Прыкметай Крычава з'яўляецца тут
дым,
што з труб ідзе і флюгерам нам
служыць.
Завод цэментны "вінаваты" ў тым,
ды ад завода люд жыве й не тужыць.
І ёсць тут з гумы вырабаў завод.
Па значнасці ў нас другое месца мае.
¨н корміць навакольны весь народ
і ў свой абутак з гумы абувае.
Быў Сож да Крычава калісьці
суднаходны –
хадзілі баржы ўверх ад ніжняй плыні.
І зараз бачым – вось вам фенамен
прыродны:
ад дзейнасці людзей рака мялее, гіне.
А гістарычных помнікаў у нас і не
багата –
амаль няма чым нават пахваліцца.
¨сць луг Пятра, дзе рускія салдаты
ўсім лагерам пілі ваду з яго ж крыніцы.
Ну ёсць яшчэ тут на пагорку каля
шляху
палац Пацёмкіна, што ім пабудаваны.
¨н не з'яўляецца такім ужо і гмахам,
ды гледзячы яго стаіш зачараваны.
І Крычаў хоць зусім не знакаміты –
для знакамітасці яму падзеяў не хапіла.
Але як бачым намі не забыты
калісьці бунтаваўшы тут Вашчыла.
Ад замчышча руіны тут калісь стаялі.
Байніцы іх глядзелі грозна на ўсход.
Вядома што й адтуль захопнікаў чакалі
і горад свой заўсёды бараніў народ.
А ў час другой сусветнае вайны
былі тут "вызваліцелі" аж па два разы.
Адны "свабоду" неслі ад фашысцкае
чумы
другія – ад камуністычнае заразы.
І ўсе яны тапталіся па нашае зямлі.
Здаецца блытаемся ў іх мы пад нагамі.
Хацеў бы я, каб беларусы розум
набылі
і лёс заўсёды свой каб вырашалі самі.

Нашчадкам Крычаўлян я напаследак
зычу:
мець гонар, годнасць, патрыётаў дух
і славіць справамі наш горад Крычаў
і мацаваць паўсюдна Адраджэння рух!

Наш "Бацька" – любімы?

З края ў край цераз поле і гай
адно толькі чуецца імя.
Як радыё ўключыш – дык толькі аб ім:
Рыгоравіч – "Бацька любімы".
Экран беларускі запоўнены ім –
БТ яму служыць надзейна.
Таму на экране ўвесь час мільгаціць
твар "Бацькаў" з вусамі Хусейна.
Са СМІ зрабіў ён "глуха, як у танку":
ці чуў хто ў адрас яго крытыку?
Прамовы выдае ён нібы калыханкі
і гне гнілую, шкодную палітыку.
Усе СМІ – яго. У яго свае законы.
І апазіцыі к экрану няма ходу.
Таму наш "Бацька" сціплым
барытонам
"Лапшу" на вушы вешае народу.
"Мы тое ёсць, што мы ядзім".
Электарату "Бацькаву "лапшу" і
спажываць.
¨н лічыць, што разумны "бацька" наш
адзін
і больш няма каму краінай кіраваць.
І нашыя "саўкі" не ведаюць імёнаў
людзей Радзімы, кім можна ганарыцца.
І гэта толькі ўсё таму,
што апазіцыі к экрану не прабіцца.
І вось кіруе "Бацька" ужо восем год,
усе бачым мы, як стала "лепей" жыць.
І любіць "Бацьку" "мудры" той народ,
але ж астатнія ці змогуць палюбіць?

Праменад

Хто гуляе па Адэсе,
Той жыццю, канечне, рад.
Я ж у Крычаве таксама
Выйшаў раз на праменад.

Ды ў мяне жыццё пагана—
Справы не ідуць на лад.
Я махнуў рукой на справы
І пайшоў на праменад.

Крычаў – горад не вялікі
І Адэсе ён не брат.
І па Крычаву, згадзіцесь,
Зусім іншы праменад.

Я кірую на "Брадвей" наш
(Цемзавода ён фасад)
Па мясцоваму "Брадвею"
Пачынаю праменад.

І шпацырую павольна –
Крочу я ўпярод-назад.
Гэта й будзе па-фарнцузку
Гэтак званы праменад.

Пазіраю на кабецін
На адной спыніў пагляд.
Сам сабе я разважаю:
Будзе добры "праменад".

Раптам чую – каля вуха:
"Куды вочы "пяліш", гад!"
Гэта жонка за мной сочыць –
Сапсавала праменад.

"А ну, лайдак, хутчэй дадому,
(Дома ж спраў заўсёды шмат)
Лепей корпайся ля дома –
Вось табе дзе праменад!"

Галаву прыгнуўшы ў плечы
Я пайшоў дамоў, назад.
Жонка з'едліва мне ззаду:
"Бач ты, любіць праменад".

Вось, браткі, жыццё якое.
Ці ж такому будзеш рад?
Пры такім жыцці гаротным
Хіба зробіш праменад?

# Вика Гервитович (г. Мстиславль)

## *Первая любовь (рассказ)*

- Анастасия, ты домой идёшь?- спросила Ксения Михайловна молодую учительницу, заглянув в класс русского языка и литературы.

- Пока нет, - ответила девушка. – Хочу проверить тетради.

- Проверишь дома, - посоветовала опытная учительница. – Нечего засиживаться допоздна.

- Мне спешить некуда.

- Смотри сама, - сказала Ксения Михайловна и закрыла дверь.

Девушка грустно посмотрела на закрытую дверь и снова уткнулась в тетради.

После окончания педагогического университета Настя получила распределение в далекую сельскую школу. Но кому после городской жизни охота ехать в какую-то тьму-таракань? И родители девушки, приложив все усилия, добились того, чтобы их дочь осталась работать в родном городе.

Школа, в которой Настя работала, была новой, красивой, классы просторные, с современной мебелью, коллектив слаженный, дружный. Молодая учительница была довольна всем, что связывало её с работой, а вот домашняя обстановка её угнетала: родители постоянно ссорятся и дело уже, кажется, доходит до развода. В чём причина семейного разлада она так и не поняла, ведь столько лет они прожили дружно.

Настя вспомнила те счастливые моменты их жизни, когда они вместе каждое лето ездили на Черное море, как отдыхали на даче, вспомнила турпоходы, рыбалку, праздники. Папа всегда был добрый, ласковый, веселый, маму называл своей королевой, а Настю и ее сестру Наташу – маленькими принцессами. В последнее время все изменилось. Отец стал часто задерживаться на работе, мама из-за этого злилась, кричала. Наташа вышла замуж и переехала жить к мужу, а Анастасия металась между отцом и матерью, словно между двух огней. Она все пыталась найти ту ниточку, которая бы снова связала их вместе.

Настя, задумавшись, облокотилась на стопку тетрадей и нечаянно столкнула ее на пол. Когда девушка наклонилась, чтобы их поднять, то заметила возле стола листок в клеточку, исписанный каким-то текстом.

- Интересно, - подумала Настя, - откуда он здесь взялся? Может выпал из какой-нибудь тетради? Тогда почему он в клеточку?

Настя повертела его в руках, не обращая внимания на текст. Почерк совсем незнакомый. Странно. Она решила прочитать, что в нем написано, чтобы определить по стилю написания автора, и от неожиданности опешила – в первой строчке аккуратным подчерком выведено ее имя. Это было письмо, адресованное ей: "Милая Настенька. Не думай, пожалуйста, что я очень легко бросаюсь словом "люблю", просто это мое личное чувство к тебе. Не считай, что "тот, кто много пишет, - он много врет, его перо любовью дышит, а сердце холодно, как лед!". Ты ведь сама говорила, что любишь писать то, что думаешь, вот и я сегодня перешел на эту позицию. Не знаю только, поймешь ли ты меня?

Я люблю тебя и приложу все усилия, чтобы добиться взаимности. Пойми, что главное в человеке не возраст, а его духовный мир. Иногда вижу тебя во сне, чуть-чуть лучше, чем наяву (игра воображения), чувствую твое присутствие. Мне очень хочется сделать тебе что-нибудь приятное. Поверь, "крутить мозги" я не умею, да и не собираюсь, просто пишу то, о чем думаю.

Любить человека – это значит ценить, уважать его, верить ему, стараться быть чем-то похожим на него в своих поступках, делах, даже в мыслях. Любовь – это прекрасное чувство, и кто познает его, остается счастливым на всю жизнь. Каким бы словом не назвали это чувство, все равно оно им и останется. Это естественная потребность человека – любить и быть любимым.

Хочется посидеть около тебя, поговорить с тобой, приласкать. С каждым днем все сильнее и сильнее тяга к тебе, и хочу верить, что ты в будущем будешь всегда с тобой. Я говорю это от всего сердца и надеюсь, что мои мечты сбудутся. Все время думаю о тебе, особенно сейчас, потому что ты, именно ты, разожгла в моей душе огонь, который, как мне кажется, уже невозможно погасить.

Я люблю тебя! Люблю! Люблю! Люблю!"

Настя стояла и в недоумении смотрела на письмо.

- Что всё это может значить? Чья-то глупая шутка? А может правда? Но кто мог это написать?- Один за одним возникали вопросы.

Девушка в памяти стала перебирать всех, кто бы мог это написать, но не могла никого представить. Определённо, что это написал кто-то из класса, раз послание лежало в одной из тетрадей. Но вот кто?




Этот вопрос долгое время не давал ей покоя, но ни один из учеников так себя и не проявил.

Когда через неделю, на уроке литературы они писали сочинение, Настя решила повнимательней присмотреться к каждому, благо, что парней в классе было всего пять.

Сергей Касимов. Тихий, спокойный парень, увлекается шахматами, немного стеснительный и на такие подвиги не способен.

Ваня Звонников. Этот, кроме футбола, ничего и никого не замечает.

Паша Дежинский. Баламут. Серьезного в нем нет ничего, да к тому ж у него почерк отвратительный, что, порой, проверяя тетради, невозможно разобрать, что он написал.

Дима Нежин и Саша Солярин тоже не годятся на роль тайного воздыхателя – слишком заняты учебой и боксом.

Тогда кто?!

А может она не там ищет? Может кто-то просто подложил письмо в одну из тетрадей, или между ними, чтобы сбить с толку? Сплошные загадки. И Настя решила махнуть рукой на это недоразумение и жить так, как будто ничего не произошло.

Незаметно учебный год подошел к концу. Прозвенел последний звонок, опустели классы, школьники отправились в долгожданные каникулы, а выпускники на крыльях знаний полетели навстречу новой, еще совсем для них не знакомой взрослой жизни.

В том, что выпускники ее класса займут достойное место на пути в будущее, она нисколько не сомневалась: они были хорошо подготовлены. Даже Паша Дежинский, не самый сильный ученик, хорошо сдал выпускные экзамены, а по литературе, что она совсем не ожидала, получил "отлично", но признаться, куда собирается поступать, наотрез отказался - чтобы не сглазить.

Неделя к неделе, месяц к месяцу, год к году – так прошло пять лет.

В личной жизни Анастасии изменений не произошло, а вот ее родители решили все - таки расстаться – отец ушел к другой женщине, сказав, что она не такая сварливая, как ее мама, и просто замечательная. Услышать такие слова из уст родного отца было неприятно, но она проглотила горечь обиды и во всем старалась поддерживать мать, чтобы та побыстрее оправилась от переживаний.

Первое сентября. Это уже седьмой первый звонок в ее работе, а все равно есть легкое волнение. Новые ученики, новые учителя. Есть от чего волноваться.

Прежде, чем идти в свой класс, Настя решила заглянуть в учительскую и первым, кого она увидела, был Паша Дежинский, ученик первого ее выпуска.

- Здравствуйте, Анастасия Сергеевна.

- Паша? А ты что здесь делаешь? – искренне удивилась Настя.

- Пришел на работу по распределению, - улыбнулся он.

- И кем же?

- Учителем русского языка и литературы, - все с той же улыбкой ответил Павел.

- Кем?! – От удивления Настя даже присела на стул. – Если честно, то для меня это полная неожиданность.

- Не только для вас мой приход стал неожиданностью. По-моему, здесь удивлены все.

- А почему ты мне сразу не сказал о своем решении, когда собирался поступать? Я бы тебе помогла подготовиться.

- Как видите, я справился сам. Было бы желание.

- Откуда такое рвение? – спросила Настя, подходя к окну, чтобы лучше рассмотреть своего бывшего ученика. – Вроде в школе у тебя не было большого стремления к языкам да и вообще к урокам.

- Нужно было доказать себе и еще одному человеку то, что я не бросаю слов на ветер…

- "Тот, кто много пишет, - он много врет, его перо любовью дышит, а сердце холодно, как лед!" - Настя вдруг вспомнила строки из письма, которое она нашла пять с половиной лет назад и, сама того не подозревая, закончила мысль Павла.

- Вы их помните? – взволнованно спросил молодой человек.

- Да нет, просто само как-то вырвалось… Постой, - опомнилась Настя, – а ты откуда их знаешь?

- Павел замялся. Он, как провинившийся мальчишка, опустил глаза и не знал что сказать.

- Ты? – вдруг осенило ее. – Так это был ты?

- Да, - смущенно ответил он.

- Но почему ты мне раньше не сказал об этом, еще тогда? – Настя подошла поближе к Павлу. – я решила, что это чья-то глупая шутка.

- Это не было шуткой. Я написал то, что думал. Я действительно люблю вас, поэтому и приложил все усилия, чтобы добиться вашего расположения. Я специально поступил в пединститут на факультет филологии, чтобы быть ближе к вам, чтобы видеть вас каждый день и наслаждаться вашим присутствием. За эти пять лет, что я учился, моё чувство не остыло, а наоборот, ещё больше усилилось.

Настя стояла и завороженно смотрела на Пашу. Впервые она посмотрела на него не как на своего ученика, а как на вполне взрослого мужчину. Её не смущала разница в возрасте – ей были очень приятны слова признания. Она слушала его и чувствовала, что в ней просыпается женщина, которая долго спала сном одиночества, и ей совсем не хотелось в него возвращаться.

- Я надеюсь, - тихо сказал Павел, - что когда-нибудь вы ответите мне взаимностью.

- Я тоже на это надеюсь, - прошептала в ответ Настя.

# Нина Кадеева (г. Мстиславль)

Мы нужны друг другу

Скоро и зима,
Будет злиться вьюга
Я шепчу слова:
"Мы нужны друг другу".
Будут холода,
Будет злиться ветер,
Но в своих мечтах
Мы одни на свете.
Нипочём мороз,
Нипочём метели
Лишь бы всё сбылось,
Как с тобой хотели.
Будь со мной всегда,
И тогда отступят
Ветер, холода
И метели с вьюгой.
Унесутся вдаль
Лютые морозы
Расцветут для нас
Примулы и розы.
Мы поймём с тобой,
Что нужны друг другу
Не страшны двоим
И метели с вьюгой.
Вместе навсегда
И в любую вьюгу
Шепчешь мне слова:
"Мы нужны друг другу".

Для тебя

Хотела б быть я ветерком,
Чтоб губ твоих всегда касаться,
Хотела б солнышком я быть,
Чтоб каждый день ласкать тебя.
Звездой твоей хотела б стать,
Когда ты ночью будешь спать,
Хотела бы тобою любоваться
И ни на миг не расставаться!

Мы не должны…

Мы не должны с тобой влюбляться,
Мы не должны с тобой любить,
Мы можем изредка встречаться,
Но ничего не изменить.
С тобой мы оба не свободны,
Судьбу нельзя переменить,
И чтобы не было нам больно
Мы не должны с тобой любить.
Как в жизни все несправедливо,
Но продолжаем все же жить
Хотела б стать и я счастливой.
Не суждено счастливой быть…

Одна

Горькое слово "прощай",
Нелепое слово "прости",
Знаешь, мне очень жаль,
Нам не по пути.
Всё это слышала я
Мне ты сказал прощай
Знаешь ,мне очень жаль,
Живи без меня, не грусти!
Я промолчала в ответ,
Нечего было сказать,
Если ты так решил,
Не стала тебя держать.
Слёзы текли по щекам,
Сердце щемило в груди,
Очень хотелось сказать:
"Милый, родной, не уходи!"
Что-то ещё говорил,
Только не слышала я,
И вот ты растаял вдали,
Осталась теперь одна.

Измена

Твоя любовь осталась в прошлом
И в прошлом нежные слова,
Ах, как шептал ты их мне ночью
И как кружилась голова!
Теперь другой наверно даришь
Свои ты ласки и любовь,
Ещё ты чьё-то сердце ранишь,
А после причинишь и боль.

Одиночество

В душе моей осень,
На сердце печаль
В счастливую даль
В те дни, где с тобою
Мы счастливы были.
Где вместе мечтали.
Друг друга любили.
Но счастье промчалось,
Прошло стороною
Одна я осталась,
Но сердце с тобою.
Оно ждёт и любит
Невзгодам назло,
Как хочется мне,
Чтоб тебе повезло.
Чтоб горе тебя
Обошло стороною,
Любовь чтоб моя
Оставалась с тобою.

# Фелікс Шкірманкоў (г. Слаўгарад)

## *Вандроўка ў дзяцінства*

Апошнім часам, не ўпісваючыся ў сённяшняе жыццё, усё часцей вяртаюся ў далёкія гады дзяцінства, і з сумам заўважаю, што большасць таго жыцця беззваротна страчана ў памяці. Таму ашчадна збіраю ўсё, што раптам успамінаю, спрабуючы захаваць дакладнасць і паслядоўнасць усплываючых у памяці малюнкаў.

Навошта я гэта раблю – не ведаю. Але раблю кожны дзень, асабліва, калі кладуся ў ложак і не прыходзіць сон. Вось тады з неверагоднай хуткасцю пераношусь туды, куды дазваляе памяць і спрабую глядзець на ўсплываючыя малюнкі не вачыма тагачаснага хлопчыка, а вачыма сямідзесяціпяцігадовага прадзеда, бо ўжо ў маіх унукаў растуць дзеці.

У раннім дзяцінстве давялося змяніць некалькі месц жыхарства ў сувязі з пераводамі бацькі па службе. Нідзе больш трох-чатырох гадоў не жылі.

Найбольшую памяць пакінуў Бягомль. Напэўна таму, што ў Бягомлі я рабіў свае першыя школьныя крокі ў нулёўцы, быў тады такі клас, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны партызанскія сцяжынкі ізноў прывялі мяне ў Бягомль.

Там, у Бягомлі, я ўпершыню ўбачыў легкавы аўтамабіль, на якім раз'язжаў начальнік палітаддзела МТС, мажны мужчына з ромбам у пятліцах вайсковай гімнасцёркі.

З Бягомля я ўпершыню трапіў з экскурсіяй вучняў школы ў Мінск і быў уражаны гмахам Дома Урада, трамваямі і фабрыкай-кухняй, дзе мы харчаваліся.

У Бягомлі мяне прынялі ў піянеры. На адным з першых збораў абралі ў склад рэдкалегіі насценнай газеты. Тады кожны клас павінен быў мець сваю насценную газету.

У Бягомлі я ўпершыню сустракаў новы 1935 год з упрыгожанай сваімі рукамі ялінкай, ролю якой выконвала сасонка, бо ў лесе, куды мы паехалі з бацькам, ялінкі не знайшлі, і зрубілі сасонку.

Гэта падзея адбылася дзякуючы артыкулу Максіма Горкага ў "Праўдзе". Артыкул М. Горкага, калі не памыляюся, "Праўда" надрукавала ў пачатку снежня, а ўжо ў канцы снежня ў кнігарні з'явіліся першыя ёлачныя цацкі. Нейкую дробязь маці купіла, а ўсё астатняе прыдумвалі і рабілі самі з паперы, курыных яек, размаляваных фарбамі. Я быў у захапленні.

З Бягомля мяне, цяжка параненага, 22-га красавіка 1943 года вывезлі на самалёце ў Маскву, у шпіталь.

У трыццаць трэцім годзе Бягомль быў звычайнай вёскай і па забудовах, і па ладу жыцця, атрымаўшай у дваццаць чацьвёртым годзе статус раённага цэнтра Лепельскай акругі.

Самай вялікай забудовай Бягомля была каменная царква, ў якой у той час набажэнствы не адбываліся, бо вышэйшыя рэвалюцыйныя інтарэсы патрабавалі размясціць у царкве пілараму і такім чынам выратаваць людзей ад "опіуму", якім царква дурыла людзей.




Што такое "опіум", я тады не ведаў, але паколькі ў сям'і не было веруючых, не сумняваўся, што піларама патрэбна людзям, а "опіум" – гэта дрэнна.

На другім канцы мястэчка была двухпавярховая, складзеная з чырвонай цэглы беларуская школа-дзесяцігодка, якая адразу пасля забойства Кірава атрымала яго імя. Беларускай яна была не толькі па назве, як гэта прынята сёння, а ў ёй усе прадметы выкладаліся на беларускай мове.

Былі ў Бягомлі і гандлёвыя ўстановы. Іх было некалькі. Але запомніліся не ўсе. Найлепш запомнілася крама "Цэнтраспірта", дзе на паліцах стаялі бутэлькі з гарэлкай ёмістасцю ад 0,25 літра да 3-х літраў.

Улетку мы – малеча – кожную нядзелю, калі на базарнай плошчы, дзе месцілася крама "Цэнтраспірта", адбываліся базары, наведвалі яе. На базары з'язджаліся сяляне з навакольных вёсак. Прадаўшы свой тавар, амаль кожны селянін купляў ў "Цэнтраспірце" пляшку гарэлкі і, седзячы на возе, адкаркоўваў яе. А паколькі тады былі сапраўдныя коркі з кары коркавага дрэва, дык каб адкаркаваць пляшку, трэба было добра паддаць далонню ў донца, і тады корак вылятаў.

Вось гэты момант мы і цікавалі, каб паспець схапіць адляцеўшы корак і пры гэтым не атрымаць пугай па спіне. Але калі нават такое і здаралася, але пры гэтым корак быў у руцэ, то ніякага болю не адчувалася, бо за здаты корак у краме "Цэнтраспірта" давалі пяць капеек, а гэта было адно маленькае марозіва, на якое бацькі падаткоўвалі грошы вельмі і вельмі рэдка.

Была крама з таямнічай назвай "Таргсін". Што гэта азначала, я даведаўся праз нейкі час. Даведаўся, і паўстала новае пытанне; калі "Таргсін" – гэта "Гандлёвы сіндыкат", то што такое "Сіндыкат"?

Неяк з сябрамі наважыўся я зайсці ў гэтую таямнічую краму з шыкоўнай шыльдай з залатымі літарамі. На паліцах былі прыгожа размаляваныя бляшанкі, пакункі, бутэлькі і шмат яшчэ чаго, што мы бачылі ўпершыню. У краме быў такі хвалюючы смачны водар ад недасягальных для нас прысмакаў, што нельга было вытрымаць, і мы моўчкі хуценька выйшлі з крамы.

Праз нейкі час я даведаўся, што ў "Таргсіне" можна ўсё гэта купіць, але не за грошы, а за нейкую "валюту", ці золата. Паколькі ў маіх бацькоў ні валюты ні золата не было, не давялося паспрабаваць тады нічога з таго, што мяне так уразіла.

Успамінаючы гэта сёння, я так і не знайшоў адказа на пытанне, якое кожны раз пры ўспаміне гэтага выпадка ўзнікала: з якой мэтай у глухім мястэчку адчынілі гэтую валютную краму?

Але сталым наведвальнікам я зрабіўся іншай крамы з назвай "Кнігарня". Як толькі восенню трыццаць трэцяга года я быў залічаны ў школу, адразу папрасіў маці пайсці са мной ў кнігарню. Мне вельмі хацелася, каб маці купіла як мага больш з таго, што я там ужо выглядзеў.

З кнігарні я вынес некалькі сшыткаў, ручку, некалькі пёраў № 86, шкляную чарнільніцу-невылівашку, карабок з шасцю каляровымі алоўкамі, чарнільную і алоўкавую сціркі і драўляны трохкутнік. Але і гэта было для мяне казачным багаццем.

Напэўна была і крама харчовых тавараў, але не магу пыпомніць яе. Была аптэка і бальніца. І быў кінотэатр, куды малеча праслізвала без білетаў і, калі пачынаўся сэанс, усаджваліся на падлозе перад першым радам. Калі ўдавалася захавацца ў зале пасля заканчэння першага сэанса, глядзелі з такім жа захапленнем і другі. Асабліва спадабаліся фільмы з удзелам вядомых у той час камедыйных актораў Пата і Паташона.

Тады ў фільмах не было сёнешняй уседазволенасці, прапагандуючай культ супермэна, бясконцых забойстваў, насілля, згвалтаванняў.Таму бацькам не трэба было думаць: а ці можна гэты фільм глядзець дзецям?

На ўскрайку Бягомля была выспа з назвай Лысая гара. На ёй захаваліся акопы з грамадзянскай вайны. Дзятва ўзімку скатвалася з яе на санках, а ўлетку гуляла ў вайну, падзяліўшыся на белых і чырвоных, шукала патроны. Здаралася, што знаходзілі, і тады раскладвалі вогнішча і кідалі ў яго патроны, прыходзячы ў захапленне, калі яны ўзрываліся. Дзіўна, што нікога, наколькі я памятую, не пакалечыла.

Аднойчы мне неверагодна пашанцавала – я знайшоў на Лысай гары добразахаваўшыся снарад ад трохдзюймовай гарматы. Абрадаваўся знаходцы. Прынёс снарад дамоў і паклаў яго ў куток за хату, дзе і вырашыў яго разабраць, каб паглядзець, а што там унутры? Толькі ўзяўся за малаток, раздумваючы, як ямчэй ударыць па бліскучай "дзюбе", як атрымаў такую аплявуху ад бацькі, што малаток адляцеў у адзін бок, а я ў другі. Выратавала мяне тое, што бацька ў гэты момант зазірнуў за хату і ўбачыў, што я збіраюся рабіць.

Побач з Бягомлем была невялічкая вёска Маргавіца, а крыху далей Брадок. Нехта зрыфмаваў: "Маргавіца – сталіца, а Брадок – наш галоўны гарадок!". Гэта быў першы вусны твор з якім я пазнаёміўся ў школе.

Цікавасць звадзіла мяне і ў "сталіцу", і ў "галоўны гарадок". Я быў збянтэжаны, бачыўшы скасабочаныя, уросшыя ў зямлю хаткі з маленькімі ваконцамі і прагніўшымі саламянымі дахамі.

На ўскрайку Бягомля былі тры імшары: першая, другая і трэцяя. Так называліся невялічкія пералескі паміж якімі акрамя балотных купін нічога не было. Вось у адной з гэтых імшар я знайшоў першы ў сваім жыцці баравік. Зрэзаў яго, а месца дзе ён вырас, пакрыў мохам, каб ніхто не ўбачыў. Я туды прыходзіў па два разы на тыдзень паглядзець, ці не вырас новы баравік. І калі ў адзін са сваіх прыходаў знайшоў на тым месцы адразу чатыры баравікі, зросшыяся каранямі, незвычайна абрадваўся.

З гэтага моманту я на ўсё жыццё зрабіўся заўзятым аматарам ціхага палявання. Аднойчы я пайшоў з суседскай сям'ёй за баравікамі. Я баяўся праспаць і папрасіў у маці, каб яна дазволіла мне начаваць у суседзяў, з якімі я збіраўся ў грыбы. Атрымаўшы дазвол, адразу пабег да іх і з іхнімі дзецьмі улёгся ў пуні на сена, накрыўшысь даматканай посцілкай.

Разбудзілі нас на світанку, калі толькі пачало развідневацца. Праз паўгадзіны мы былі ўжо на баравічным месцы. Там я ўпершыню ўбачыў, як шукаюць баравікі босымі нагамі. Знайшоўшы адзін, тырчэўшы з моху, трэба, стоячы на адной назе, другой абмацваць мох навокал знаходкі. І амаль заўсёды пад мохам былі побач баравічкі-мацакі. У той час грыбоў было значна болей чым сёння.

Ад галадухі ў трыццаць трэцім годзе ратаваў бацькаў вайсковы паёк. Як ужо маці выкручвалася з ім на траіх - мне невядома. На першым месцы ў яе быў бацька, на другім я, а ёй, як многа пазней яна сама казала, не заўсёды нешта даставалася. Таму той страшнай галадухі, якую зведала падаўляючая большасць вяскоўцаў, наша сям'я пазбегла.

Вясной, у канцы сакавіка – пачатку красавіка, як толькі сыйшоў з палеткаў снег, мой сябра сказаў, што заўтра ранкам ён з сястрой ідзе шукаць перазімаваўшую бульбу. Я далучыўся да іх, і мы некалькі гадзін бадзяліся па гразі з кіёчкамі ў руках, адшукваючы тую бульбу. Выгляд у яе быў вельмі не прывабны, асобныя бульбіны мелі непрыемны пах, і мы іх не бралі.

Як-ніяк, а за паўдня назбіралі амаль поўны вядзёрны кошык. Маці майго сябра ўзрадавалася і сказала, што прыгатуе "лапуны". Мы з нецярпеннем, звесіўшы галовы з цёплай печы, чакалі, калі гэтыя загадкавыя "лапуны" будуць гатовыя, бо ўжо вельмі хацелася есці.

І вось урэшце атрымалі па тры ладных тоўстых аладкі і ў місцы таўчонае канаплянае семя з соллю. Мачалі "лапуны" ў семя і елі, пахвальваючы – смаката! Мы не ведалі, што ў гэтую перагніўшую бульбу дадавалася перацёртая сасновая кара, каб змяніць гнілосны колер, і жменька мукі, калі яна была, а калі не, то звычайных высеўкаў.

У той год амаль усіх сялян так ці гэтак, а сагналі ў калгасы – калектывізацыя была закончана. Каб павялічыць калгасны статак у бліжэйшыя два - тры гады, забаранілі ўсім, не залежна ад таго калгаснік ты, ці не, хто трымаў на сваіх падворках кароў, рэзаць цёлачак. Іх трэба было здаваць у калгас.

Насупраць нашай хаты жыла яўрэйская сям'я. Прозвішча, на жаль, не памятую, а малодшую іх дачушку, ёй было пяць гадоў, звалі Міра. Бацька працаваў нарыхтоўшчыкам, і жылі яны, як і сяляне беларусы. Ацялілася ў іх карова. Падзея засталася па-за ўвагі мясцовай улады. Гэта ўзрадавала іх і, падгадаваўшы крыху, цёлачку зарэзалі, бо сям'я вялікая і дзеці просяць есці. А каб ніхто з дзяцей не прагаварыўся, бо тады бяда, дык іх навучылі, што калі хто спытае адкуль мяса, казаць, што зарэзалі авечку.

І вось аднойчы, зайшоўшы ў хату сельсаветчык, убачыў на стале ў місцы мяса. Дарослых у хаце не было. Адна Міра. Яна ўбачыла, што дзядзька зацікавіўся мясам і кажа: "Гэта ў нас было цялятка, якое авечкай звалася, дык тата яго зарэзаў!". Добра, што сельсаветчык той чалавекам аказаўся, а так бы дорага каштавала ім тая "авечка".

А што было рабіць людзям у тую галадуху? Трэба ж было неяк жыць, ратуючыся ад "клопатаў" дзяржавы пра заможнае калгаснае жыццё. А, крый Бог, калі чвалавек закалоў свінчо, а скуру не зняў і не здаў! З самаго тры здзяруць, калі даведаюцца! Умацоўвала сябе савецкая ўлада, не зважаючы на енкі і слёзы людзей. А ўперадзе быў 37-й год.

Напэўна ў той цяжкі час у Бягомлі без асаблівых турбот акрамя нас – малечы жылось мясцоваму блазню, які бадзяўся па мястэчку, аб нечым сам з сабою размаўляў, нічога дрэннага нікому не рабіў. Звалі яго ўсе пан Пілсудскі. Заўсёды адзываўся на гэта імя. А потым некуды знік. Хто казаў, што збег у Польшчу, бо быў ён паляк, а дзяржаўная мяжа з Польшчай была побач. А хто, што ніякі ён не блазень, а польскі афіцэр-шпіён. І каб не пільнасць НКВД, дык нарабіў бы ён вялікай шкоды ўсім. Якой канкрэтна шкоды кожнаму з местачкоўцаў – ніхто не ведаў, але ўслых усе радаваліся, што НКВД адвяло ад людзей бяду.

Гэты ўспамін пераносіць мяне ў снежань 1942 года. На наступны дзень, як партызанамі быў разбіты нямецка-паліцэйскі гарнізон у Бягомлі, я яшчэ раз сутыкнуўся з "пільнасцю" НКВД. Але захаплення ў мяне яна тады не вык-лікала.

У той дзень я сустрэў свайго школьнага сябра, з якім сядзеў на адной парце да чацьвёртага класа – Івана Бацэку. Ён мне паведаміў, што ў Бягомлі знаходзіцца наш агульны сябра Іван Панцялееў і Валя К.

Вечарам мы ўтрох пайшлі да Валі. Гэта быў вечар успамінаў нашых першых школьных крокаў. А праз дзень мне стала вядома, што Валю і яшчэ трох яе аднагодкаў арыштавалі "Смершаўцы" партызанскай брыгады "Жалязняк", вывезлі ў лес за Бягомль і там забілі. Забілі за "здраду Радзіме".

А "здрада" была ў тым, што немцы звазілі некалькі дзяўчат з Бягомля на экскурсію ў Германію, дзе іх пазнаёмілі з вядзеннем хатняй гаспадаркі нямецкімі баўэрамі, каб яны, павярнуўшыся ў Бягомль, расказалі пра ўбачанае людзям. Прывезлі яны з Германіі і насенне розных кветак і гародніных культур.

Вось тады ўпершыню ў мяне ўзнікла сумненне ў справядлівасці таго, што зрабілі "смершаўцы". Але як я яшчэ быў далёка ў свае шаснаццаць год ад такіх паняццяў, як "правы чалавека" і "прызумцыя невіноўнасці"!

І сёння, на схіле гадоў, успамінаючы Бягомль снежня 1942 года, перад вачыма стаіць прыгожая дзяўчына – мая аднакласніца, якую пазбавілі жыцця ў сямнаццаць год, і душа мая плача ад усведамлення, што нічога нельга выправіць. І недзе яшчэ дажываюць свой век "народныя мсціўцы-смершаўцы", пазбавіўшыя жыцця Валю і яе сяброваў, сустракаюцца ў школах з вучнямі, расказваюць ім, як яны мужна змагаліся ў гады Айчыннай вайны з нямецкімі акупантамі і іхнімі памагатымі...

Праз многа год выпадкова сустрэўся я з адной жанчынай, маёй аднагодкай. Разгаварыліся і высветлілася, што яна ў 33-м жыла ў Бягомлі. І яна расказала пра "заможнае" жыццё яе сям'і ў той час.

Тады падворак калгасніка абкладваўся падаткам шмат за што. І калі гаспадар не разлічваўся з падаткам у тэрмін, у яго забіралі з двара жывёлу, ці рэчы, у залежнасці ад велічыні запазычанасці. Рэчы ацэньвалі прадстаўнікі падатковай службы і сельсавета.

У той год на працадні не выдалі ні капейкі грашыма, а тут позва – тэрмінова сплаціць падатак. А дзе селяніну ўзяць тыя грошы? Не заплацілі ў вызначаны тэрмін, і прыйшлі на падворак апісваць маёмасць. А што апісваць? Самае каштоўнае, што ў іх было – гэта застаўшыйся ад бацькі пасля яго смерці кажушок. Гэта была і памяць і адзенне для маці ўзімку.

Пакуль інспектар з сельсаветчыкам агледзалі падворак, вышукваючы прыхаванае свінчо, маці ўпіхнула кажушок у мех і пасадзіла на яго сваю дачушку – маю субяседніцу. Агледзелі госці падворак, нічога вартага не знайшлі, бо такога не было, і ў хату. А там так сама пуста. Стаяць яны, не ве-даюць што рабіць. І звярнуў увагу інспектар на дзяўчынку, што сядзела ў куце і сваёй спаднічкай намагалася нешта, на чым сядзела, прыкрыць. Ён ёй і кажа: "Што ты там хаваеш, пакажы!".

Дзяўчынка спалохалася, яшчэ мацней учапілася за мех і скрозь слёзы кажа: "Не пакажу, бо гэта татаў кажушок!". Сілком сцягнуў інспектар дзяўчынку з меха, выцягнуў кажушок, разглядзеў яго, усміхнуўся і кажа: "Ну вось і разлічыліся з падаткам, а казалі, што няма чым плаціць!".

...Даўно гэта было, амаль сем дзесяткаў гадоў прайшло з таго часу. Шмат што змянілася за прайшоўшыя дзесяцігоддзі, ды вось бяда – не ў лепшы бок. Пастарэла вёска. Шмат у якіх дзіцячага смеху не пачуеш. У школах некамплект вучняў у класах. І самае сумнае: усе вясковыя школы лічацца беларускамоўнымі, але ці пачуеце вы беларускую мову ў настаўніцкіх? Прыбліжаная да беларускай яна гучыць на ўроках беларускай мовы і літаратуры, а як прагучыць званок на перапынак – і яна знікае, саступаючы рускамоўнай тра-сянцы.

Маладзейшыя з вёсак хто куды паразбегліся. А тыя адзінкі, што заста-ліся, амаль цалкам спіліся. Дык ці дзіва, што дзіцячыя галасы ў вёсцы – гэта з'ява анамальная?

Не-не, ды й задаю сам сабе пытанне: а што гараджане ў хуткім часе піць-есці будуць, калі ўсё ў вёсцы застанецца так, як сёння? «Кока-Колай» і «Снікерсамі» сыты не будзеш.

Пытанне, канешне, у пэўным сэнсе, рытарычнае, але яно не муха, ад яго не адмахнешся. Канешне, можна чарговым дэкрэтам абавязаць усіх гараджан: рабочых з заводаў, настаўнікаў, вучняў старэйшых класаў, студэнтаў, прафесараў адпрацаваць па тыдню ці два на ўборцы бульбы і буракоў, нарыхтоўцы кармоў для жывёлы. Гэта зрабіць можна, вялікага розуму на гэта не трэба, калі ў руках бязмежная ўлада.

А як быць з нічым не правініўшымся статкам? Хто будзе яго даглядаць, каль вось-вось сыйдуць апошнія бессярэбраніцы, а застаўшыяся канчаткова сап'юцца? Гарадскую жанчыну ніякімі дэкрэтамі на ферму не загоніш. А калі нават такое і здарылася б, дык што яна будзе рабіць каля тых кароў?

Не ведаю, як там у Мінску ў тых, каго называюць абязлічана "улада", а ў мяне трывожна на душы, бо я жыву ў гэтым асяродзі, якое беззваротна гіне ў пьяным ачмурэнні. І калі гэта канчаткова здарыцца – будзе позна рэфармаваць сельскую гаспадарку. Ды і сёння ўжо наўрад ці знойдзецца мінімальна-патрэбная колькасць добраахвотнікаў працаваць на зямлі сапраўдным гаспадаром нават пад сапраўдныя гарантыі дзяржавы, якая б магла ўзняць вытворчасць да ўзроўня, забяспечваючага патрэбу насельніцтва горада і вёскі ў прадуктах харчавання.

У трыццаць трэцім я быў дзіцём і дзіцячымі вачыма глядзеў на ўсё, што адбывалася. Мне тады і "лапуны" былі смачнымі і я за імі не бачыў трагедыі народа, а сёння...

Не, нешта не тое робіцца ў нашым каралеўстве крывых люстэрак, калі тыя, што існуюць у жабрацтве, галасуюць за захаванне такога жыцця.

Ад гэтай рэчаіснасці ўсё часцей і часцей я адпраўляюся ў вандроўку ў далёкае цнатлівае дзяцінства...


Шлях у мінулае

# Фелікс Шкірманкоў (г. Слаўгарад)

Каляндар

Каб з маленства знали дзеткі,
Дзе грыбы растуць, дзе кветкі,
Што ў прыродзе адбываецца,
Калі месяцы змяняюцца,
Склаў я гэты календар.
¨н малятам дапаможа
Шмат цікавага спазнаць.
Зразумець, як час бяжыць,
І як месяцы лічыць.
Студзень, люты, сакавік...
Чаму на снежні пералік
Месяцаў канчаецца?
Ну канешне ж, – год прайшоў!
Пачынай лічыць ізноў:
Студзень, люты, сакавік,
А за ім і красавік,
Травень, чэрвень, потым ліпень,
Калі ўсюды красак кіпень,
Жнівень, верасень, кастрычнік...
Тут патрэбна ставіць клічнік!
Бо лістапад зайцом праскочыць,
А за ім і снежань крочыць.
¨сці аб кожным што сказаць,
Значыць трэба пачынаць.

Студзень

Маразы калядныя
У суседзяў затрымаліся,
І толькі Вадохрышча
У нас на справу ўзяліся.
Над стрэхамі з комінаў
Уецца зранку дым,
А на шыбах вокнаў
Казачны кілім.
На цёплыя печы
Загнаў мароз усіх:
Ад дробнай малечы
Да дзядоў старых.
Дзень крыху
прыбаўляецца,
Робіцца даўжэй.
Каля ганка з курамі
Скача верабей.
Скокне, азірнецца:
Чык-чырык! Я тут.
Схопіць дзюбкай зерне
І хутчэй у кут.
Як студзень не злуецца,
А сонца ўсё вышэй.
З вышыні смяецца
І робіцца цяплей.

Люты

Месяц гэты – жартаўнік:
То ён усім лагодзіць,
То раптоўна, без прычын
Пачынае шкодзіць.

Зробіць коўзанку мароз
За ноч каля ганку,
Добра шчыпле дзеткам нос
¨н з самага ранку.

А ўдзень некуды збяжыць,
І цяплом павее,
Снег пасыпле, закружыць,
А ўначы – завея.

І злуецца і мяце
Сумёт ля сумёта.
Усе падворкі занясе
Снегам вышэй плота.

Потым зноў марозка тут
Па падворку ходзіць
І шукае дзе яшчэ
Не паспеў нашкодзіць.

Сакавік

Адгулялі завірухі,
Адпусцілі маразы.
Са страхі вісяць каралі –
З вострай дзюбай ледзяшы.

Аглядаюць сад сініцы,
Хеўрай скачуць вераб'і.
А ў хаце, ля бажніцы,
Ачунялі павукі.

Зайчык сонечны з'явіўся,
Па падлозе праскакаў.
Ускочыў у ложак і спыніўся,
Потым некуды прапаў.

Нібы нехта нецвярозы,
Уначы пяюць каты.
Чырванеюць вербалозы
Па-над рэчкай, ля вады.

Красавік

Дзень хутка прыбаўляецца,
А ноч усё карацей.
Першым прачынаецца
У падстрэшшы верабей.

Чырыкне ў захапленні.
Нябачны ля варот
Прыціхне ў летуценні
Гатовы скокнуць кот.


У зімовым парку

З палеткаў снег сыходзіць,
Гракі праводзяць сход,
А певень кур выводзіць
Вітаць вясны прыход.

Травень

Месяц травень, месяц май
Басаножыць ногі.
Дарагі нам надзвычай
Святам Перамогі.

Белай кіпенню садоў,
Лугавым кілімам
Уздоўж рэчак, ручаёў,
Вогнішчавым дымам.

На прагалінах у бары,
На пясчаных узгорках,
Быццам з сказкі ваяры,
Страчкі на пыгорках.

З кожным днём ноч карацей,
Значыць, хутка лета.
І не дзіўна, што яго
Любім мы за гэта.

Чэрвень

Птушкі ў гнёздах чакаюць
З дня на дзень птушанят.
Каласы зацвітаюць,
Што ўзняліся з зярнят.
Набіраюць чарніцы
Моц у сасновых барах.
Чырванеюць суніцы
З кожным днём на вачах.

Сонца добра працуе.
Дзень даўжэйшы ў гаду.
Пчолка плённа шчыруе
У лузе, у полі, у саду.

Ліпень

Вяршыня лета надыходзіць,
Гараць Купальскія агні,
І кветку-папараць знаходзіць
Ваяр на казачным кані.

Бадзёраць ліпеньскія росы,
І водар спелай збажыны.
Ляжаць духмяныя пракосы,
Як прывітанне даўніны.

На золку з вудамі да рэчкі
Рыбалкі подбежкам ідуць.
Прыкорм кідаюць з ячнай сечкі,
Гаворку ціхую вядуць.

Але аматарская справа
Жыве не толькі ля ракі.
¨сць лес, а там палююць жвава
Без стрэльбаў ціха грыбнікі.

Ды што казаць – вяршыня лета!
А значыць – лепей недаспаць,
Каб была выканана мэта
Лясных прысмакаў назбіраць.

Жнівень

Апошні месяц лета
¨н на календары.
Але не значыць гэта,
Што ўжо кажух бяры.

Спяваюць у лузе konikі,
У вадзе ўздоўж ракі
Стаяць з доўгімі вудамі
З надзеяй рыбакі.

А між кустоў у няўдобіцах,
Пакуль ляжыць раса,
Звініць у руках рупліўцаў
Літовачка-каса.

У жніўні пакідаюць
Буслы свой родны кут.
У вырай адлятаюць,
Каб зноў з'явіцца тут.

Калі за спёкай з вечара,
Там, дзе растуць дубы,
Пальюць раптоўна ліўні,
Гатуйся ў грыбы.

Лісічак будзе процьма,
Абабкі і грузды.
А пашанцуе – рыжык
Ты знойдзеш, і тады

Будзь пільным, бо не проста
Іх будзе адшукаць.
Яны пад мохам моўчкі
Нябачныя сядзяць.

Верасень

Яшчэ не восень, бабіна лета
Палашчыць нас сваім цяплом,
Але ўжо восені прыкмета
Гарыць рабінавым агнём.

Паўсюды срэбныя кілімы
Вісяць на травах, хмызняках,
І жураўліны крык шчымлівы,
І яблык позніх у хаце пах.

Як не круці, калі апенькі
У рост пайшлі, і льюць дажджы,
Калі кажух дзядок старэнькі
Надзеў – пра лета не кажы.

Кастрычнік

Ноч удвая даўжэй за дзень,
Стаіць пахмурнае надвор'е.
Гучыць жартоўна "Добры дзень!",
Калі ў вадзе ўсё падвор'е.

Рупліўцам гэта не бяда:
І збажына і бульба ў хаце.
У каго буяла лебяда,
Пра тых няма чаго казаці.

Той-сёй яшчэ кароў пасе,
На выган кожны дзень ганяе,
Ці ў прыдарожнай паласе
Паміж кустоў траву шукае.

І ўсе чакаюць маразы.
Вяскоўцы, тыя просяць Бога,
Каб змазаў снегам палазы,
Каб была лёгкаю дарога.

Лістапад

Змоўклі ў лесе галасы,
Сыпле дробны дожджык.
Пахаваліся вужы,
Спіць у схроне вожык.

Зрадку дзяцел застучыць,
Змоўкне, скокне лоўка.
Шэры заяц прабяжыць,
Прамільгне палёўка.

Пракрычыць сваё крумкач
Клёкатам трывожным.
І яму ў адказ сякач
Рохкне гукам грозным.

Кулямётную чаргу
Выпусціць сарока.
Гэта значыць чалавек
Трапіў ёй на вока.

І сапраўды, на кані
Ляснік у абходзе.
Лістападаўскія дні,
Восень на заходзе.

Снежань

Ну вось і скончан пералік,
А час ідзе і не спыняецца.
І гэта значыць, што да нас
Чарговы год спяшаецца.

На развітанне Дзед-мароз
Нас з гэтым павіншуе,
Пашчыпле вушы, рукі, нос,
І з кожным пажартуе.

Уначы абыйдзе ён усіх,
Не абміне нікога:
Старых, дарослых і малых,
У яго работы многа.

¨сць і памочніца яму –
Снягурачка – дзяўчынка.
Дзед ходзіць у доўгім кажуху,
Памочніца – сняжынка.

У іх падарункаў поўны мех,
Усюды іх чакаюць.
Яны прыносяць жарты, смех,
Вясёлых свят жадаюць.

# Светлана Халипская (г. Чериков)

## *Качала ветками рябина...*

Домой Светлана возвращалась пешком. На единственный рейсовый автобус она опоздала. В райцентре у неё было много разных дел.

А вообще в этот день всё складывалось неудачно. На остановке зря отстояла целый час. Но ни одной попутной машины не оказалось. Тяжёлая сумка отрывала руки. Казалось, ничего такого не купила, а килограмм к килограмму – и получился вес не под силу. Сила-то никудышная, хотя и возраст ещё далёк до сорока. Но болезни не щадили, словно нравилось им донимать стойкую волю Светланы.

Дорога стрелой летела в сторону деревни. Вдоль неё тянулся лес, который Светлана знала, как свои пять пальцев. Вся жизнь прошла в этой присожской стороне. И нет её милее сердцу!

Идти становилось всё труднее и труднее. Сказывались усталость и нервная передряга. А тут ещё ветер поднялся, нагнал грозовые тучи, и как из ведра хлынул дождь. Повязав на голову платок, Светлана упорно шла дальше. От всех обстоятельств жизни хотелось плакать.

Вдруг она услышала гул машины и приостановилась, обрадовавшись тому, что хоть в одном ей сегодня повезёт. Ещё издали она махнула рукой и почти была уверена, что машина остановится. Но УАЗик промчался мимо, обдав грязной холодной водой, выплеснувшейся из-под колёс. Обида мёртвой хваткой стиснула горло, и слёзы, вперемешку с каплями дождя, побежали по щекам. Светлана не могла не узнать того, кто сидел за рулём. Конечно, это Анатолий. Нет, им он был прежде. Теперь это Анатолий Павлович – заметная фигура в районе. Он иногда наведывался в родную деревню, где из всех его немногочисленных родственников осталась только тётя. Светланин дом как раз соседствует с усадьбой Полины Сергеевны, некогда ударницы труда, а нынче немощной старушки.

Дождь кончился, и дорога тоже. Промокшая до нитки Светлана, наконец, добралась домой. Синий УАЗик стоял у ворот соседнего дома. Обида снова комком подступила к горлу. "Так тебе и надо, глупая, доверчивая, слепая дурёха!" – не в первый раз сердито отругала себя Светлана. Забыть бы всё, но как? Простить, а можно ли?

Уже в детстве Света и Толя были друзьями. Как говорится, не разлей водой. Школьные годы день за днём, укрепляли их дружбу, которая со временем не могла не перерасти в любовь. О ней говорили все, от мала до велика. Анатолий красиво ухаживал за Светланой. Это были чистые взаимоотношения юноши и девушки. Во всяком случае таких отношений требовала Светлана.

Прозвенел последний звонок. На своём маленьком дружеском совете Света и Толя решили поступать в один и тот же город, только в разные учебные заведения. Парню хотелось постигать технические науки, а девушке – педагогические. Удачливый Анатолий стал студентом, а Света вернулась в деревню в надежде, что не всё ещё потеряно и в следующем году можно будет снова попытать удачи. Но Толя был другого мнения: "Главное женское образование – в хорошем муже. А муж-то вот он – я! Выучусь, стану начальником, а ты – моей женой. Думаешь, плохо тебе будет жить? Вот увидишь, все позавидуют"... Но у Светланы была своя жизненная философия. Ей хотелось самой что-нибудь значить в этой жизни, а не быть просто мужней женой.

Отучившись полгода, Анатолий приехал на каникулы. Долгими вечерами он рассказывал Светлане об учёбе и быте студентов, жаловался на нехватку денег. Стипендии он не получал из-за плохой успеваемости, а среднего достатка родители не могли оплачивать всех расходов сына.. "Того и гляди придётся бросить институт", - сетовал он. И Светлана задумалась. Ей очень хотелось помочь своему любимому. Решение было принято бесповоротное: она будет работать и помогать Анатолию. Ведь, в конце концов, должность дипломированного специалиста ей гарантирована.

Пять лет учёбы Светлана исправно, каждый месяц, оказывала материальную поддержку студенту, себе отказывая во всём. "Ничего, потом наверстаю",- думала она и радовалась за ту лепту, которую вносит в обучение будущего супруга.

Наконец новоиспечённый специалист прибыл домой с дипломом и... невестой. Светлана не могла поверить своим глазам. Всё казалось глупым сном, небылицей, кошмаром. Она не находила себе места, жалела себя, стыдилась людской молвы, ревновала, страдала, но ничего изменить не могла. Как объяснил Анатолий, юношеская любовь угасла в его сердце. Он намекал на разный образовательный уровень, который тоже оказался не в пользу Светланы. Но её ли в том вина, что верила, любила и жертвовала во имя любви всем, что имела?..

УАЗик плавно отъехал от соседского дома. Светлана смотрела ему во след. А у окна качала ветками рябина, выросшая из маленького деревца некогда посаженного в честь вечной дружбы и любви...

# Эльвира Готовчикова (г.Чериков)

***

В моей судьбе должно свершиться чудо,
Пусть говорят: "Чудес на свете нет".
Я помню этот миг и не забуду,
Когда пришла Любовь и дала свет.
В тот час в моей душе темно так было,
На ощупь в темноте искала путь.
Любовь меня спасла и осветила,
Иначе помогла на всё взглянуть.
И сердце застучало по-другому,
Считала я себя счастливей всех.
Как будто темнота мне не знакома,
Но в жизни не бывает без помех.
Боюсь, что свет мой снова потухает
И никогда не будет он гореть,
Пока второй огонь не запылает,
Который сможет душу мне согреть.
А если в одиночку сердце тлеет,
Как от костра последний огонёк,
Счастливой стать я просто не сумею,
Найди меня, мой милый паренёк!
В моей судьбе должно свершиться чудо,
Пусть говорят: "Чудес на свете нет".
Запомню этот миг и не забуду,
Когда вернётся он и даст мне свет.

Урок

В тебя влюбиться сильно я боялась,
Но сердце не смогла держать в плену.
Я чувствам лишь чуть-чуть сопротивлялась,
Сегодня до утра я не усну.

Твоё лицо в глазах моих застыло,
Твой голос, как мелодия звучит.
Наверняка, я раньше не любила,
Впервые моё сердце так стучит.

Быть может потому, что я малышка,
Шестнадцать лет – ещё не зрелый срок,
А ты постарше, даже взрослый слишком,
Мне, как учитель, дал любви урок.
И я его освоила отлично,
Теперь я знаю, как вскипает кровь.
Когда твой взгляд так нежно, необычно
Души моей коснётся вновь и вновь.

Я чувствую, как ты глазами просишь
Испить ещё не тронутый родник.
Но я не знаю, что ты в сердце носишь
Любовь ли? Любопытство ли? – Тайник.

Хочу, чтоб ты раскрыл свою загадку
И если любопытство, то соври.
Скажи, что любишь, ложь пусть будет сладкой,
А правды горькой мне не говори.

Мне хочется подольше наслаждаться,
Минутами, прожитыми с тобой.
Пусть это сон, но буду огорчаться,
Когда проснусь и стану вдруг большой.
Боль заживёт, а я очнусь с волненьем,
Пойму, что жизнь всему отводит срок:
Любви, обману, правде, огорченью...
И это будет новый мой урок.

Голос моей души

Я знаю точно, без сомненья,
Успеха в жизни не видать,
Когда доверишься теченью –
Волна вас может растерзать.
Нельзя себя ему отдать.
И лишь тогда ты встретишь счастье,
Когда трудам года отдашь.
Умрут от зависти ненастья,
Уйдёт пугающий мираж.
Ты, человек, владеешь силой,
Лишь стоит лень свою прогнать...
И будет жизнь казаться милой,
И зацветут сады опять.
Ты приложи стараний много,
Чтоб смысл в жизни обрести...
Тогда судьба не будет строгой,
Не станет бедами гнести.
Поверь в себя и в то, что можешь,
И не жалей последних сил...
Борись! – И ты осколки сложишь
Надежды той, что вдруг разбил.
Достанешь в сердце ключик веры,
Хоть даже будет там темно,
Но ты откроешь к счастью двери,
И к свету выйдешь всё равно.
Ты, человек, ты не бессильный,
Раз жизнь даёт удачи знак,
Трудись, не будь к себе пассивным
И не сдавайся просто так.

Гордыня

Я больше всех свою гордыню ненавижу,
Она всегда мешает счастью моему.
Я в гордости своей врага лишь вижу,
И гордым быть я не желаю никому.
Порою часто я за гордостью скрываю –
Свои тончайшие и хрупкие черты...
Я – нет, скажу, хоть – да, сказать желаю –
Вот так мои и разбиваются мечты.
Но я в душе тогда и мучаюсь, и каюсь...
Ведь так мне хочется всё снова изменить.
Сказать бы – Да, но что-то не решаюсь,
И в этом долго буду я себя винить.
Когда иду с поднятой гордо головою,
- Любимый, знай, что сердце стонет и болит...
Мечтает быть оно опять с тобою,
Но только гордость обо всём молчать велит.
Я признаюсь – свою гордыню ненавижу,
Она всегда мешает счастью моему...
Я в гордости своей врага лишь вижу,
И быть гордыней не желаю никому.


Жаночая мара

# Егор Кожухин (г. Чериков)

Любовь, что вернуть не дано

Ранней осени стылый туман
Заслоняет манящие дали.
Мы внезапно жестокий обман
Запоздалой любви увидали.

Встреч тепло, нежный трепет руки
Скрылись в снах уходящего лета.
Не гулять нам с тобой у реки,
Не внимать соловьям до рассвета.

Вдалеке друг от друга давно
Вспоминаем в печальном томленье
Ту любовь, что вернуть не дано,
Долгожданных минут наслажденье.

Ночного неба мрак осенний

Ночного неба мрак осенний
Напомнил, как сердца стучали.
Искрясь, капели звон весенний
Нам пел, что счастье повстречали.

Журча, неслись ручьи долиной.
Встреч долгожданных было мало.
И радость бесконечно длинной
Весной ликующей сияла.

Любовь восторженною песней
Лилась, как жаворонков трели,
Мечтой взлетала в поднебесье
В сиянье солнечном апреля.

Меня позвала вдаль дорога.
Оставшись с испытаньем трудным,
Ты незаметно, понемногу
Привыкла к одиноким будням.

Огонь любви пылает ярко
И пламя страсти не угаснет.
Тогда, когда влюблённым жарко
От встреч пленительного счастья.

Разлука гасит потихоньку
Пожары трепетных волнений.
Угли костра не мчат вдогонку,
Стремясь вернуть восторг мгновений.

Как вспоминать без сожалений
О днях, что нежностью дышали.
Ночного неба мрак осенний
Сотрёт минувшие печали.

84 дня

Как обычно к полудню завьюжило,
Скрыло снежной завесою даль.
На стекле серебристое кружево
Вяжет нитью морозный февраль.
Вдалеке от тебя занедужил я.
Милый лик заслонила метель,
Вязью зимней сознание сужено,
Пряжей вьюг леденит канитель.
Вновь сердца расставаньем остужены.
Ждёт корабль любви нашей мель.
Встреч – разлук бесконечное кружево,
Ожиданий, надежд карусель.
Есть от горьких терзаний отдушина –
Сон заглушит сомнений метель,
Отогреет озябшую душу мне
Среди стужи тоскливых недель.
Незаметно уснул, уж не слушаю
Вьюги плач. Согревает постель.
Сон внезапной тревогой нарушила
Телефона звенящая трель.
Да! Ало! Я внимательно слушаю.
Ждешь? Грустишь? Слез соленых
капель?
Без тебя как? Разлукой иссушенный.
Гложет горечь. С тобой? Карамель.
Слышишь, как засмеялась
приглушенно
За окошком мохнатая ель?
Грусть исчезла, сомненья заглушены.
Твой звонок, как надежды свирель.
- Потерпи: испытания сдюжим мы.
Быть с тобой всегда – моя цель.
Ты навеки моя. Ты мне сужена.
Для уставшей души колыбель.
Нет. Разлукой любовь не остужена.
Жжет тоска одиноких недель.
Но сердца леденящую дюжину
Растопит озорная капель.

Задремавшая нежность разбужена,
Луч весенний спрядет канитель,
И любви золотистое кружево
Свяжет нам лучезарный апрель.

Куток дзяцінства

Паабапал гасцінца
Ля Сожа – ракі
Гарадок прытуліўся
Маленькі такі.

Не адразу ахопіш
Абшары палёў.
Працінаюць нябёсы
Чароды буслоў.

Дорыць водар вясновы
Квітнеючы бэз.
Смех, як звон ручаіны,
Дзяўчынак – гарэз.

Столькі летам ў лесе
Духмяных суніц.
Пакаштуеш напояў
Крыштальных крыніц.

Там душы паратунак
І сэрцу спакой.
Тут бясконца хвалюе
Мяне непакой.

Хутка я завітаю
Да цябе незнарок.
Не крыўдуй, дачакайся
Дзяцінства куток.

Падыйду, дакрануся
Да Сожа – ракі,
Да цябе прытулюся
Маленькі такі.

Каму думка ўзнеслая блізка

Каму думка ўзнеслая блізка,
Той у сціплы альбом зазірне.
Шчырых слоў вершаваная нізка
Яму сэрца пяшчотай кране.
Паэтычных мелодый вятрыска
Цёплай хвалей душу агарне.
Небасхіл, неабсяжна празрысты,
Прамяністым святлом палыхне.

Сутнасць дзеяння
(прытча)

Старая быль данесла споведь.
Цягалі трое камяні.
Даволі хуткі мой аповед.
У іх цяклі марудна дні.

Аднойчы людзі запыталі,
Што яны робяць увесь час.
Адказ наступны атрымалі,
Вось толькі розным быў адказ.

Сказаў адзін: “Нашу каменні”,
І больш нічога не дадаў.
Упартай працай і цярпеннем
Сям'і я паратунак даў –

Спакойна адказаў наступны.
На хлеб я зарабляю тут.
Заробак мне такі даступны.
Не ведае сям'я пакут.

Калі ж у трэццяга спыталі,
У чым сутнасць дзеяння яго,
Не то пачулі, што чакалі,
Сябе так корміць, ці каго.

¨н глянуў яснымі вачыма:
“ Нашу каменні не для брам.
Патрэбна гэта мне начынне,
Каб збудаваць прыгожы храм.”

Хто з іх меў рацыю, дарэчы?
Як сутнасць справы разумеў?
Які цяжар усклаў на плечы?
Які здабытак з таго меў?

# Сергей Дивинский (Чериков)

Печали колокол трезвонит

Порой с людей срываю маски,
Живу, как будто в вечном сне.
В палитре все смешались краски,
И нет спасения в вине.

Печали колокол трезвонит,
Над Миром грянула гроза.
Любовь сама себя хоронит,
И зависть нам слепит глаза.

Судьбе подставит зло подсечку,
И утром Солнце не взойдёт.
За упокой поставим свечку,
И в муках ада жизнь пройдёт.

Всех превратит вражда в жестоких,
На мать поднимется рука.
Детей бросаем одиноких
Под небом в серых облаках.

Давайте войны остановим,
Пусть голубь Мира в дом влетит.
Слезу последнюю уроним,
И пусть грехи нам Бог простит.

***

Года мои уносятся всё дальше
Дорога жизни в путь меня зовёт.
В твоих словах так много было
фальши,
Любви кораблик больше не плывёт.

Как без тебя всё кажется уныло,
Разлука госпожой взошла на трон.
Но между нами всё же, что-то было,
И слышится слезы упавшей звон.

Душа от одиночества завыла,
Мерещится повсюду образ твой.
Ты солнечного зайчика ловила,
Покой из клетки выпустила мой.

Прощальный поцелуй летает рядом,
Стою на перекрёстке двух дорог.
Ты жизнь в меня своим вселяла
взглядом,
За что теперь меня карает Бог?

Вращается опять судьбы рулетка,
По кругу и среди ночных теней.
Разлука в нас дуплетом била метко,
Мы оказались между двух огней.

Друг другом насладиться не успели,
Мне не согреть твоих любимых рук.
И не звенят для нас весной капели,
Я сердца твоего не слышу стук.

***

Брожу, как пёс бездомный по ночам,
От колдовства скрываюсь в лунном
свете.
Любовь свою отдам я палачам,
Другой такой не сыщешь на планете.

Навеет ветер прошлого печаль,
Луна ехидно надо мной смеётся.
И ждёт меня неведомая даль,
А ложь твоя мне в спину улыбнётся.

От глаз твоих не смог я убежать,
Стрела измены в сердце мне
вонзилась.
Другой до дома будет провожать,
Всё от того, что зеркало разбилось.

***

Целовались с тобою в ночи
При мерцающем свете свечи.
Ты к груди припадала моей,
Зажигая пожары страстей.
Как была ты собой хороша,
Соловьём заливалась душа.
Свет очей твоих сводит с ума,
Не страшна мне и злая зима.
Пусть кусается лютый мороз –
Твои волосы – косы берёз.
И улыбка, как солнце ясна,
Для меня навсегда ты весна.


Маленькі сусед

# Алег Сорын (г. Чэрыкаў)

***

Сяджу дарма ля тэлефону,
А снег павольна растае…
Не бачу я ў каханні плёну,
Бо так цябе недастае.
Такой ласкавай і адзінай,
Другой няма на ўсёй Зямлі.
Марудна цягнуцца гадзіны,
Калі ж ты з'явішся – калі?
Дзе ж тая песня жаўрукова?
Што шчасце зычыла ў жыцці?
Зламана тонкая падкова,
Не склеіш, як тут не круці.
Вясна – дзяўчынка маладая,
Сваё ўзяла верацяно.
Дарма я позіркі кідаю
На сонцам грэтае акно.
Такая выпала затрымка,
Ды толькі трэба быць дужэй…
Вось ты смяешся з фотаздымка,
І дзень здаецца прыгажэй…

Каханню жыць

У аксамітавай траве,
Заўжды чароўным летам –
Святло кахання ў галаве
Ну, што паробіш з гэтым?
Ад сенам пахнучых начэй,
І зорных, і спакусных…
Ды ад даверлівых вачэй,
І вішняў, што на вуснах.
Такая колькасць розных мар
Даранку надыходзіць.
Спявае казачны гусляр,
Мелодыю выводзіць.
Што заквітнеў пунцовы мак
І ўжо няма спакою…
Ці то дзяўчына, ці юнак
Сумуюць над ракою.
На ўсё імкнуцца даць адказ,
Хоць і пытанняў густа,
Калі кахаць, як першы раз –
Не лічыцца распустай.
За грэх "вясёлай удаве"
Даецца дараванне,
За тое, што яшчэ жыве
Душы выпрабаванне.

Бо без пачуццяў сэнс які?
Жыццё, як існаванне…
Няхай праз доўгія гады
Не скончыцца каханне.

***

Зазімак упаў, пэўна, ранні,
Адразу ўсё стала бяло.
Гаворым – згубілі каханне,
Якога яшчэ не было.
Ці можа такое адбыцца?
Ці трэба пытаць мудраца?
Мы ж ведаем, што не напіцца
З пустога старога карца.
Не будзе без голасу песні,
Хоць граюць музыкі матыў.
Старыя рыпучыя весні
Сустрэнуць зімовы ўплыў.
Пад снегам і луг, і дуброва,
І ўжо не пяюць салаўі…
Былая Эзопава мова
Павыставе крапкі над "І".
І ты пакумекай над гэтым,
Падумай належна не раз.
Калі ты назваўся паэтам,
Дык ведаць павінен адказ.
Пытанне ўстае не пустое,
Даецца яно нездарма:
Ці можна згубіць табе тое,
Чаго, як вядома няма???

Трывай папера

Яшчэ з сівых часоў Гамэра
(¨н чалавек быў не пусты),
Усё папера ды папера –
Бярості белыя лісты.
Па ёй радкі – крывыя пяткі -
Бягуць, за імі не паспець.
І хоць папера без пячаткі –
Яна не можа чырванець.
Узялі гэта за манеру,
Пісаць навучыліся ледзь, ледзь.
Алоўкам крымзаем паперу –
Яна не можа чырванець.

Пра закаханасць кавалера,
Ці верш, як
гонар
трэба
мець…
Трывае
чыстая
папера –
Яна ж не
можа
чырванець.

Але
адбыцца
можа цуда,
(Нальецца,
як
пунцовы
мак)
Папера
крыкне: -
Больш не
буду!
Я слацца
пад пяро
пісак.

І ўсё ж гатовы загаловак,
Задумка ёсць у галаве.
Кладу паперу пад аловак –
Трываць каракулі мае.

Радзімічы

Жыццё – яно як падарожжа,
І ёсць у кожнага свой шлях.
Хто каля Проні, хто ля Сожа…
Шукаем мы сабе свой дах.

Хто ж на шляху нам дапаможа?
Няўжо забылі ўсе пра нас?
Як ля ракі старога Сожа,
Жылі радзімічы ў свой час.

Яны немала паспыталі,
Не менш, чым зараз мы трывог.
Ім травы ногі казыталі,
І ложкам быў сухі мурог.

Заўжды аб волі мелі мары,
Ці дождж хлястаў, ці падаў снег…
Даніну бралі з іх хазары,
А потым Кіеўскі Алег.

Шумелі шатамі ракіты,
І слалі коўдры туманы…
Радзім застаўся не забыты –
Аб ім гавораць курганы.

Зямля старэйшага Радзіма –
Лугі, лясы і берагі…
Прысожжа белая радзіма,
Як я з табой няма тугі.

Няма братоў – Радзіма, Вяткі.
Прайшлі далёкія вякі.
Але мы іхнія нашчадкі,
Жывём на беразе ракі.

Старога Сожа на ўзбярэжжы –
Тут любы родны твой куток…
Айчыны лёс ад нас залежыць,
І ў гэтым існасці выток.

# Станіслаў Хахлоў (г. Чэрыкаў)

Прыгажосць

Заўважыў дзяўчыну ля Сожа
У чым маці на свет нарадзіла.
Яна мяне бачыць не можа,
А вобраз анёльскі і мілы!
Сядзіць, не чапае нікога,
А месяц яе асвятляе.
Яна тут вышэй і за Бога,
Калі так сябе абдымае.
Пагладзіць свой твар, засумуе,
А ён чырванее пацюху.
І сэрца ў сусвеце балюе,
Ах, гэта жаночае ліха!

Падворак

Сабралася ў белы
камочак,
Ніхто яе тут не
бароніць.
А водар
дзяўчыны той
хоча
Пабегчы на
родныя гоні.
Устала,
прайшлася па
ночы,
Сябе ўсёй зямлі
падарыла.
Яна ўжо нікуды
не збочыць,
Той водар ад
Сожа да Ніла.
Ах, шчасце
аголенай ружы,
Каб хто апісаў яго
болей.
Я, праўда, ужо
трохі не здужыў
Ад смачнага прысмаку болю…

Максіму Багдановічу

Не разумеюць чыстых, Багдановіч.
Навокал бруд і цяжка распазнаць.
Хто шчыра, ад душы з табой гаворыць,
Хто для таго, каб потым растаптаць.
Ты васілёк любіў, кахаў жанчыну,
А хто ўжо зараз можа пакахаць?!
І злёг народ мой, пэўна, у дамавіну,
Ужо ці зможа рыцарам ён стаць?
Я прачытаў "Вянок" твой, Багдановіч,
Тваё мне вершы асвятляюць шлях.
У іх заўсёды Бог душу палоніць
І выганяе подласць, злосць і страх.
Шкада, што ты не побач, Багдановіч,
Што ў сэрца ўжо не зможаш заглянуць.
Ты б зразумеў, напэўна, Багдановіч,
Чаму сумленных любяць ды клянуць.

Па дарозе з Мінску

Вось зноў пакідаю сталіцу
І зычуць сябры мне дабра.
Не спіцца ў купэ мне, не спіцца,
Але ж і до дому пара.
Ды думкі бягуць у былое,
У студэнцкія светлыя дні.
А Мінск з прыгажосцю да болю
Цалуе і шэпча: "Засні".
Успомні свае вандраванні.
Юнацкую спрытнасць, запал.
Жыцця чалавечага здані
Пацешаць усмешкаю твар"…
Чаму я ў цябе закаханы,
Далёкі і блізкі мне Мінск?
Раптоўна загояцца раны,
Як блісне твой праведны зніч.
Так, буду ўжо хутка я дома,
А заўтра на працу ісці.
І нейкая страшная стома
Прымусіць цябе абыйсці.
А Мінск пазабыць я не ў стане,
¨н кліча мяне з маіх сноў.
І нават у доўгім растанні
Вітае мяне зноў і зноў.

Калючыя ружы кахання

Вам прыношу калючыя ружы
З прыгажэйшаю кропляй расы,
Каб яны саграваалі ў сцюжу,
Каб напомнілі штось у маразы.
Каб вы, гледзячы ў чырвань пялёсткаў,
Чырванелі мацней і мацней,
Каб у натоўпе сталічных кіёскаў
Вас кружыла каханне часцей.
Каб у цяжкую хвіліну растання
Вы хацелі мяне так сустрэць,
Каб яны Вам свяцілі да рання,
Каб далі Вам ад шчасця самлець.
Хай жа ружы калючай красою
Ад мяне вам пашлюць трыялет.
І ад зла няхай стане мяжою
Нашых думак вясенніх букет.
Я даю ў каханыя рукі
Ружы веры, святла, цеплыні.
Каб вам вечнасці чуліся гукі,
Каб вам шчасця свяцілі агні.

Вечны боль

Я вінаваты сто разоў,
Ды што паробіш, позна,пэўна.
Халодна не ад маразоў,
Ну, зразумей мяне, царэўна,
Як сэрца б'ецца і баліць
І просіць мноства прабачэнняў.
Я не магу ніяк забыць
Святыню велічных імкненняў.
Пайшлі ў былое тыя дні
І ўжо не вернуцца ніколі.
І як сабе тут ні мані,
Ды не суцішыць гэткай болі.
Не зразумее ўжо ніхто,
Апроч сяброў да скону верных.
Кахання светлага расток
Не прабіваецца ўжо з зерня.

Але забыць я не змагу
Цябе – адзіную на свеце.
Напэўна, вечна не маю…
…А лёс штось грае на кларнеце.

На гронаўскай крыніцы

А як струменьчык б'е з зямлі
І зіхаціць на сонцы!
Да шчасця продкі нас вялі
Па роднай той старонцы.
Ваду крынічную я п'ю,
А смаката якая!
Бярэ яна душу маю
І смагу наталяе.
Ад той вады я чую звон
І музыку святую.
І выбягаю сёння вон
На прыгажосць зямную.
Крыніца спарадзіла.
Яна нібы святы санет –
Узнёслы, добры, мілы.
Вада струменіць, як у сне,
Пяшчотай абдымае.
Каго той водар не кране,
Калі душа іграе.
Душа іграе і гудзе,
А я ваду смакую.
Такой не піў яшчэ нідзе,
Як радасць незямную.
І я памыюся вадой,
Каханнем лёс напоўню.
З дзяўчынай вельмі маладой,
Зірну я ў ноч на поўню.
…А сонца свеціць, як заўжды,
І адыходзіць ліха.
Бягуць няўмольныя гады,
І над крыніцай ціха…

